# Айцец Фёдар — духоўнік Лукашэнкі

Гісторыя жыцця самага паспяховага беларускага святара. Старонка 6.

№ 13 (850) 2 красавіка 2014

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

# Двайная гульня

Беларусь запрасіла в.а. прэзідэнта Украіны, якога Масква адмаўляецца прызнаць легітымным.



REUTERS

Лукашэнка стараецца захаваць добрыя адносіны і з Масквой, і з Кіевам.

З аднаго боку, у адказ на просьбу Крамля ён размясціў на беларускіх аэрадромах дадатковыя самалёты. І заявіў, што Беларусь у кожным разе выканае свае саюзніцкія абавязкі. У ААН Беларусь таксама галасавала разам з Масквой.

З другога боку, ён даў надзвычай прыязнае інтэрв'ю Савіку Шустэру для прайм-тайм Першага нацыянальнага тэлеканала Украіны. У ім ён выразна сімпатызаваў украінскаму боку. А ў нядзелю Аляксандр Лукашэнка ў сваёй рэзідэнцыі на Прыпяці, у Ляскавічах, сустрэўся з выканаўцам абавязкаў прэзідэнта Украіны Аляксандрам Турчынавым. Гаворка была таксама прыязнай. Бакі нават абмеркавалі стварэнне транспартнага калідора ад Чорнага мора да Балтыкі.

Масква ўвогуле адмаўляецца прызнаваць легітымнасць украінскага кіраўніцтва. А Беларусь тым часам зрабіла яму жэсты падтрымкі.

Такім чынам, Мінск хоча захаваць і прывілеі саюзніка Расіі, і незалежнасць у прыняцці замежнапалітычных рашэнняў.

**Мікола Бугай**





# Блакаванне NN.BY на Дзень Волі было ўнікальным у сваім родзе

Увечары 25 сакавіка, падчас шэсця на Дзень Волі, сайт «Нашай Нівы» не працаваў — ні з тэрыторыі Беларусі, ні з-за мяжы. Гэта не першы выпадак блакавання незалежных СМІ ў інтэрнэце, але адключэнне ад інтэрнэту сервера сайта, размешчанага ў Беларусі, адбылося ўпершыню. Калі ў 2010 ці 2011 гадах ДДоСілі (праводзілі атаку з мэтай паралізаваць працу сайта) або адключалі доступ з Беларусі да пошты Гмэйл ці сацыяльных сетак «Фэйсбук» ці «Укантакце», то цяпер проста дубова адключылі адрас размешчанага ў Беларусі сайта.

Перадача звестак абрывалася на на asbr3.net.belpak.by — адным з сервераў «Белтэлекама». Верагодна, інтэрнэт-рэсурс заблакавалі на шлюзе беларускага дата-цэнтра.

Татальная блакада доўжылася прыкладна з 19.10 да 23.20.

У адрозненне ад, скажам, «Хартыі-97», сайт «Нашай Нівы», яго сервер, фізічна размешчаны ў Беларусі. Для нас гэта прынцыпова — мы *беларуская газета*. Гэта таксама патрабаванне заканадаўства. Згодна з указам №60, беларускія юрыдычныя асобы абавязаны размяшчаць свае сайты толькі на тэрыторыі Беларусі. Некаторыя беларускія СМІ дагэтуль гэтага не ажыццявілі, але адпаведна іх сайты, з юрыдычнага пункту гледжання, не маюць афіцыйнага характару.

## Адключылі адрас размешчанага ў Беларусі сайта

Цяжка сказаць, нашто было блакаваць сайт NN.BY, што азначае такая дэманстрацыя сілы. Можна з пэўнасцю сцвярджаць, што ніякіх прававых падставаў для гэтага не было. Магчыма — але гэта толькі гіпотэза — што на паспяховым і даволі моцным сайце тэсцілі новыя методыкі.

Звярнула ўвагу, што адначасова з блакаваннем «Нашай Нівы» быў заблакаваны доступ да жывой відэатрансляцыі радыё «Свабода». А таксама быў ускладнены або немагчымы доступ да сайта тэлеканала «Белсат». У выпадку апошняга, мабыць, мела месца ддос-атака. І «Белсат», і «Свабода» — не беларускія па месцы размяшчэння сродкі масавай інфармацыі, таму заблакаваць іх сайты з Беларусі было нельга.

Што аб'ядноўвае ўсе тры гэтыя старонкі? Найперш тое, што тры гэтыя перадавалі ў тэхналагічным плане рэсурсы здольныя рабіць жывыя або вельмі аператыўныя відэатрансляцыі з месца падзей.

Калі менавіта гэта стала прычынай блакавання, то гэта, канечне, чыясьці прага дасягнуць немагчымага. У сучасным свеце відэа ўсё адно трапляе ў сеціва: сотні людзей здымаюць на тэлефоны.

Выпадкі блакавання проста разбураюць (ці пацвярджаюць) імідж і інвестыцыйны рэйтынг Беларусі. Рэалісты цудоўна разумеюць, што дзяржава не можа быць «выбарачна прававой», як нельга быць «трошкі цяжарнай».

Мы будзем расследаваць інцыдэнт 25 сакавіка і, спадзяёмся, што вінаватыя ў свой час панясуць пакаранне.

**Рэдакцыя**

# Гомель. Катастрофа беларускай мовы

У Гомелі сустрэць на вуліцы людзей, якія б размаўлялі на беларускай мове, — складана. Для таго, каб пачуць родную мову — трэба ведаць месца і час, дзе могуць збірацца беларускамоўныя. Нямала іх у сацыяльных сетках і суполках. Але сабраццa, каб атрымаць асалоду ад «звонкага «дзе» і густога «чаго», цяжка.

Рэдактар даў мне заданне «напісаць пра беларускамоўную сям'ю». Шукала я, шукала і на ўвесь Гомель не знайшла сямей, каб маці, бацька, дзеці — усе размаўлялі на роднай мове. Няма. Ці гэтыя сем'і сышлі ў падполле да лепшых часоў?

Ёсць такія сем'і, дзе, напрыклад, з дзецьмі размаўляюць і на беларускай, і на рускай мове. Ёсць такія, дзе бацька размаўляе з сынам па-беларуску, а маці — па-руску. А вось у «чыстым выглядзе» — на жаль.

### «Нема», «Няма»...

Няма ў Гомелі школ з беларускай мовай выкладання, як і дзіцячых садкоў. Выключэнне — «беларускія» класы ў гімназіі №36 імя Івана Мележа, у якой «выхаваўчы працэс — на беларускай мове», і дзіцячы садок №160 — з адной групай, дзе дваццаць дзетак выхоўваюць на беларускай мове.

Жыхарка Гомеля, сябар ТБМ Марыя Сідарэнка спрабавала «рэалізаваць сваё канстытуцыйнае права» і арганізаваць у садку па месцы жыхарства беларускамоўную групу для дзяцей, але сутыкнулася з рашучай адмовай загадчыцы. «Гэта немагчыма!» — адрэзала загадчыца садка і дадала, што працаваць няма каму, а яшчэ і «вы тут з беларускай мовай».



Загадчыцы была прапанавана дапамога з метадычнай і дыдактычнай літаратурай, але тая адмовілася — маўляў, «усяго хапае».

### Паратунак ў інтэрнэце

Для пошуку аднадумцаў маладая маці стварыла суполку ў сацыяльнай сетцы «Беларуская мова — мова маіх дзяцей». Людзі да суполкі далучыліся — амаль тысяча чалавек. Але беларускамоўная група ў садку так і не была створана. Проста ў групе абменьваюцца цікавосткамі, навінамі, спасылкамі, дыскутуюць.

У асноўным беларускамоўных можна сустрэць там, у віртуальным свеце. Там жа маладыя бацькі раяць кнігі-дыскі, дзе набыць-знайсці-спампаваць. «У Інтэрнэце дастаткова інфармацыі, сайтаў, слоўнікаў, суполак для беларускамоўных, шмат новага і цікавага з'яўляецца, у рэальным жыцці інакш, цяжэй», — лічыць Марыя Сідарэнка.

Яна тым часам набывае кнігі для свайго чатырохгадовага Уладзіка ў Мінску, вучыць з ім вершы на роднай мове, чытае малому «Маму Му» Юі Вісландэр, «Кніжку Ферды Мураша» Ондржэя Сэкары, «Пацучок Фэлік падарожнічае» Алены Масла, «Казкі, баечкі, вершыкі» Алега Старынчыка.

Уладзік гаворыць і на рускай мове, і на беларускай. Натхнёна расказвае нам зімовыя вершы пра тое, як «па сумётах шыбуе Дзед Мароз».

### Кнігі не купіць

«Наогул, набыць кнігі ці дыскі для дзяцей на беларускай мове ў Гомелі досыць праблематычна, усю літаратуру я вязу з Мінска, робячы два разы на год «налёты» на сталічныя кнігарні. Там яшчэ можна нешта прыдбаць. У сталіцы і курсы моўныя, і мерапрыемствы ладзяцца на беларускай мове, у Гомелі гэтага не хапае. Ну, некалькі канцэртаў. Спектаклі «Дзяды» і «Кот на лаўрах» па п'есе Івана Штэйнера мы наведалі ў лістападзе. Неяк праз ТБМ збіраліся — спявалі пад гітару на роднай мове, майстар-класы ладзяцца па народных танцах у філіяле Веткаўскага музея, прыязджаў «Стары Ольса», «Вурай», іншыя. «Талака» ладзіць штогод такія святы, як Гуканне вясны, Купалле, Ваджэнне і Пахаванне стралы, Каляды, шмат іншага. У прынцыпе, з мерапрыемствамі для дарослых не так ужо і блага», — пералічвала наша суразмоўца.

Працяг на старонцы 9.



## Сціісла

### Шаркаўшчына — самая бедная

Белстат падлічыў сярэднія заробкі ў кожным з рэгіёнаў Беларусі ў студзені 2014 года. Найвышэйшыя заробкі былі зафіксаваныя ў Мінску ($749) і Наваполацку ($724). Услед ідзе Салігорскі раён ($691), прадпрыемствы якога так і не ачунялі пасля калійнага крызісу. А самым бедным раёнам стаў Шаркаўшчынскі. У студзені работнікі тут зараблялі ўсяго па $338. Крыху больш у Мсціслаўскім ($354) і Браслаўскім ($359).

### Карупцыя на $14,5 мільярда

Улады Кітая канфіскавалі ў эксміністра бяспекі Чжоу Юнкана і яго атачэння актывы на $14,5 мільярдаў. Карупцыянера вінавацяць у атрыманні хабараў.

### «Распаўсюд наркотыкаў сувымерны з забойствам»

Вярхоўны суд сфармуляваў прапановы па ўзмацненні пакарання за распаўсюд наркотыкаў. «Пакаранні за такія злачынствы павінны быць сувымерныя з забойствам», — заявіў намеснік старшыні Вярхоўнага суда Валер Калінковіч. Гэта ад 6 да 15 гадоў пазбаўлення волі. А за выраб наркотыкаў у лабараторыях Калінковіч прапануе ўвесці пакаранне да 20 гадоў.

**ЯМ**

## Апытанні на nn.by

**Спадабаўся Вам сёлетні Дзень Волі?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 384 | 27% |
| Не | 236 | 17% |
| Добра, але мала | 683 | 49% |
| я Дня Волі за свята не прызнаю | 99 | 7% |

Прагаласавала 1402 чалавекі

## Рэкамендуем

### «У нас толькі адна сапраўдная зорка. А Домрачава толькі крышачку паззяла пры ёй»

Гутарка з Лявонам Вольскім

**Чытайце на nn.by**

## Самае чытанае ад 26 сакавіка да 1 красавіка

1 Правакатар, які задзіраўся з удзельнікамі маніфестацыі на Дзень Волі ФОТЫ

2 Беларусь і яшчэ 10 краін галасавалі супраць рэзалюцыі ААН аб цэласнасці Украіны

3 Лукашэнка: Калі б у Беларусі спрабавалі забраць тэрыторыю, я першы пайшоў бы ваяваць

4 Актывісты Майдану наведалі палацык Юліі Цімашэнкі ФОТАРЭПАРТАЖ

5 Сын Ярмошынай перадае вітанне з Гаагі ФОТАФАКТ

6 Былы дарадца Пуціна Іларыёнаў: Я не бяруся прагназаваць незалежнасць Беларусі пасля 25 мая

7 Лукашэнка сустракаецца з Турчынавым у Лясковічах

8 Кіраўнік «Белгазпрамбанка» на адкрыцці «Дзесяці стагоддзяў мастацтва»: Жыве Беларусь!

9 Лукашэнка і Турчынаў дамовіліся аб стварэнні Чарнаморска-Балтыйскага транзітнага калідора

10 Маладафронтаўцы рэзка адказалі паслу Сурыкаву

# Дзень Волі пад украінскімі сцягамі

Традыцыйнае шэсце ў гонар Дня Волі 25 сакавіка сабрала на вуліцах Мінска некалькі тысяч дэманстрантаў. Удзельнікаў пабольшала ў параўнанні з мінулым годам. Гэтаму спрыяла як добрае надвор'е, так і неабыякавасць беларусаў да падзей у суседняй Украіне.

**Правакатары**

У часе шэсця некалькі асобаў спрабавалі справакаваць удзельнікаў шэсця на канфлікт, у тым ліку нецэнзурнай лаянкай і выказваннямі з абразамі нацыянальных пачуццяў беларусаў і украінцаў. Шматлікія прысутныя амонаўцы і спецслужбісты іх не спынялі. Аднаго з правакатараў сфатаграфаваў паэт Славамір Адамовіч.



**Лыжка дзёгцю**

Пасля заканчэння акцыі было затрымана каля 10 дэманстрантаў, большасць з іх увечары таго ж дня адпусцілі без складання пратаколаў. А вось актывісты Аляксандр Блізнюк і Максім Вінярскі былі асуджаныя на 5 і 15 сутак адпаведна.

«Расія — гэта вайна», «Не — вайне», «Рукі прэч ад Украіны», «Не — крамлёўскім акупантам» — тыповыя транспаранты і лозунгі на акцыі. Жыхары Мінска масава павыходзілі на балконы і ганкі гандлёвых цэнтраў і няхмела віталі дэманстрантаў. Апроч звыклага «Жыве Беларусь!» натоўп скандзіраваў яшчэ і «Банду гэть», «Слава Украіне!» ды «Героям слава!»

Апошняе выклікала нервовую рэакцыю расійскага пасла і прапаганды. Амбасадар Сурыкаў выказаў занепакоенасць, дачапіўшыся да самай спрэчнай расцяжкі, з якой выйшлі сябры Маладога Фронту.

Маладзёны трымалі банер з партрэтамі Бандэры, Шухевіча, Булак-Балаховіча, Вітушкі і Гадлеўскага, а таксама надпісам «Героі не паміраюць». Гэта стала нагодай для абмеркавання ў сацыяльных сетках: наколькі карэктна было маршыраваць з партрэтамі ўкраінскіх нацыяналістаў? Тэму падхапілі і дзяржаўныя прапагандысты, якія назвалі шэсце «бандэраўскім».

Атмасфера 25 сакавіка — многія сем'і прыйшлі з дзецьмі, а «Жыве Беларусь» грымела, здавалася, на ўсю сталіцу, — нагадала вясну 1996 года.

**Ягор Марціновіч**



Такі шаўрон папулярны сярод мінскай моладзі.

КІРЫЛА ХІЛЬКО

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН


Многія сем'і прыйшлі з дзецьмі, былі і афрабеларусы.

КІРЫЛА ХІЛЬКО

А хтосьці прыйшоў у вышыванцы.

МІКОЛА БУГАЙ


Мінск даслаў Кіеву вялікае-вялікае сэрца. Яго аўтарка сабрала на ім аўтографы ўдзельнікаў шэсця.

МІКОЛА БУГАЙ


Жанчына прыйшла ў вяночку.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН


Інвалід апрануўся ў нацыянальныя колеры.

КІРЫЛА ХІЛЬКО


Многія неслі самаробныя плакаты.

КІРЫЛА ХІЛЬКО

# Афіцыйнаму Мінску самому сорамна за свае паводзіны?

**Усяго 11 дзяржаў, у тым ліку Беларусь, галасавалі супраць рэзалюцыі ААН аб цэласнасці Украіны.**

Рэзалюцыя Арганізацыі Аб'яднаных Нацый заклікала краіны не прызнаваць уступленне Крыма ў склад Расіі. У падтрымку дакумента Генасамблеі прагаласавалі 100 краін, яшчэ амаль 60 устрымаліся. Сярод іх Казахстан, Сербія, а таксама Кітай, Індыя, Бразілія.

Мала добрага, дарэчы, вястуе для чалавецтва той факт, што найбольшыя краіны Трэцяга свету гатовыя грэбаваць прынцыпам непарушнасці межаў. Значыць, яны і самі гатовыя ў будучыні пажывіцца слабейшымі суседзямі. Гэта можа кепска скончыцца для планеты.

Рашэнне мае факультатыўнае значэнне. Абавязковы характар носяць рэзалюцыі Рады Бяспекі, але там Расія мае права вета. Тым не менш, Украіне важная была нават сімвалічная падтрымка. Гэта была таксама проба сілаў для расійскай дыпламатыі.

Дык вось, 11 краін не падтрымалі рэзалюцыі. У тым ліку і Беларусь. Апроч нашай краіны, у спісе Куба, Паўночная Карэя, Венесуэла, Зімбабвэ, Арменія (такім чынам, толькі дзве краіны былога СССР), Балівія, Нікарагуа, Судан, Сірыя, ну і сама Расія.

Відаць, афіцыйнаму Мінску самому сорамна за свае двухсэнсоўныя паводзіны. Як інакш вытлумачыць той факт, што афіцыйнае інфармагенцтва БелТА вырашыла пра голас Мінска ў ААН… не паведамляць. На сайце гаворыцца пра вынікі галасавання, але не згадваецца голас нашай краіны.

«Фігура змаўчання ўжытая таму, што афіцыйны Мінск, які дагэтуль заяўляў пра падтрымку тэрытарыяльнай цэласнасці Украіны і ўвогуле відавочна не зацікаўлены псаваць дачыненні з Кіевам, у гэтым выпадку прагаласаваў дэ-факта ў падтрымку расійскай агрэсіі», — пракаментаваў палітычны аглядальнік Аляксандр Класкоўскі.



# Пугачова заступілася за Макарэвіча

Вядомая спявачка Ала Пугачова, мэр Екацярынбурга Яўгеній Ройзман, палітык і прадпрымальнік Міхаіл Прохараў, галоўны рэдактар выдавецтва «НЛО» Ірына Прохарава, акцёр Леанід Ярмольнік, пісьменніца Людміла Уліцкая, тэлевядучы Аляксандр Любімаў і яшчэ некалькі чалавек звярнуліся да расійскіх уладаў з заклікам не дапусціць ганення музыканта Андрэя Макарэвіча, а таксама «спыніць спробы развязвання ідэалагічных пагромных кампаній».

Андрэй Макарэвіч удзельнічаў у антываенным «Маршы міру» 15 сакавіка супраць расійскага ўмяшання ў падзеі ва Украіне.

**ЯМ**

# Вайны (пакуль) не будзе?

У канцы сакавіка Расія адвяла ад мяжы з Украінай прыкладна трэцюю частку сваіх войскаў, што былі сцягнуты ў Бранскую, Белгарадскую і Растоўскую вобласці.

Хоць рыторыка Масквы застаецца ваяўнічай, Пуцін выканаў галоўнае патрабаванне Захаду. Абама і Меркель разам абяцалі новыя санкцыі супраць Масквы ў выпадку атакі на кантынентальную частку Украіны.

І хоць Захад адкрыта прызнаваў, што ваяваць за Украіну не будзе, нават зброю пастаўляць не будзе, Расія не адважылася заняць Данецк і Адэсу.

Замест гэтага Расія працягвае душыць Украіну эканамічна. З 1 красавіка «Газпром» падняў цану на нафту больш чым на сто даляраў за раз. Блакітнае паліва для Украіны каштуе 386 даляраў за тысячу кубаметраў. Для параўнання: Беларусь плаціць 170.

Цікава, што цана газу аказалася ніжэйшай, чым меркаваў украінскі ўрад, і роўна такой, па якой Украіна магла б атрымліваць блакітнае паліва па новазбудаваным газаправодзе з Нямеччыны праз Славаччыну.

Прэм'ер Яцанюк меркаваў, што цана газу можа скласці нават 500 даляраў і прыспешваў Славаччыну са стварэннем магчымасці для рэверсных паставак газу праз Карпаты. Пры такіх цэнах на газ украінцам няпроста будзе выбрацца з ямы, у якую іх завёў Януковіч.

**Сяргей Гезгала**



## Аўтуховіча чакаюць на свабодзе

8 красавіка з гродзенскай турмы (Кірава, 1, у самым цэнтры горада) мае выйсці на волю палітвязень Мікола Аўтуховіч. Вызваленне звычайна адбываецца а 6-й раніцы, аднак могуць адпусціць і раней. Дэмакратычныя актывісты будуць чакаць Аўтуховіча на волі ад ночы.

Ветэран афганскай кампаніі, паспяховы прадпрымальнік з Ваўкавыска, ён быў асуджаны на пяць гадоў зняволення. Аўтуховічу інкрымінавалі падрыхтоўку тэракта, а асудзілі за захоўванне... пяці патронаў, знойдзеных пры ператрусе. Сам палітвязень мяркуе, што яго пакаралі за барацьбу з карупцыянерамі ва ўладзе.

У 2006 годзе яго пасадзілі першы раз — нібыта за ўхіленне ад сплаты падаткаў. Праз два гады ў выніку ціску ЗША і Еўрасаюза ён быў вызвалены, аднак праз год затрымалі зноў.

На наступныя год і чатыры месяцы над палітвязнем будзе прэвентыўны нагляд.

**ЯМ**

## У красавіку Беларусь абвесціць конкурс для інвестараў па прыходзе на «Гродна Азот»

Беларусь у красавіку абвесціць конкурс па прыцягненні інвестара для мадэрнізацыі прадпрыемства «Гродна Азот». Пра гэта паведаміў журналістам першы віцэ-прэм'ер Уладзімір Сямашка пасля адкрыцця VI Міжнароднай выставы «Атамэкспа-Беларусь — 2014». Удзелу ў «Гродна Азоце» даўно дабівалася Расія. Новым інвестарам можа стаць «Газпром», бо азотныя угнаенні вырабляюцца з газавай сыравіны, а «Газпром» — манапаліст у яго пастаўках у Беларусь.

Уладзімір Сямашка ўдакладніў, што гаворка ідзе аб прыцягненні не проста інвестара, але і акцыянера, якому за ўдзел у інвестпраектах «Гроднаазота» будзе перададзены пакет акцый у памеры 25% плюс адна акцыя, перадае карэспандэнт БелТА.

Паводле словаў Сямашкі, цяпер на прадпрыемстве рэалізуюцца два інвестпраекты. Адзін з іх накіраваны на павелічэнне на 20% ужо існуючых магутнасцяў па вытворчасці азотных угнаенняў. Другі — гэта будаўніцтва новай вытворчасці.

Сямашка распавёў, што ёсць пэўныя зрухі і па іншых так званых «інтэграцыйных праектах», якія запланаваны да рэалізацыі паміж Беларуссю і Расіяй. Сёння ў Мінску знаходзіцца намеснік старшыні ўрада Расіі, старшыня Вайскова-прамысловай камісіі пры ўрадзе РФ Дзмітрый Рагозін. Ён правёў перамовы з Лукашэнкам і цяпер наведвае беларускія прадпрыемствы. «Адразу пасля выставы я далучуся да яго і мы працягнем прадметныя перамовы», — сказаў Уладзімір Сямашка.

Акрамя «Гродна Азота», Расія хацела б атрымаць удзел у МАЗу, МЗКЦ, «Пеленгу», «Інтэграле». Апошнія тры прадпрыемствы маюць значэнне перадусім для ВПК.

**СГ**



## Пяць сутак за «Асобны атрад БНР»

Адзін з лідараў фанацкага руху Барысава Аляксандр Марозаў 25 сакавіка быў затрыманы нібыта за нецэнзурную лаянку на пероне чыгуначнага вакзала. Ён вяртаўся з Гродна са спартыўнай атрыбутыкай і майкамі з надпісам «Асобны атрад БНР». Праз пяць сутак Аляксандра выпусцілі, атрыбутыку вярнулі, а вось майкі адправілі на экспертызу.

«Ты сам ведаеш, чым ты займаешся, таму не здзіўляйся», — «патлумачылі» яму ў міліцыі. Ціск на фанатаў БАТЭ пачаўся пасля таго, як яны правялі акцыю салідарнасці з Майданам.

Марозаў сцвярджае, што пасля затрымання яму пагражалі. «Не дай бог заўтра хоць адна брыдота заявіцца да цябе на суд — прыпішам несанкцыянаваны мітынг, а ты пойдзеш як арганізатар», — пераказвае фанат словы праваахоўнікаў.

На працягу пяці сутак утрымання ў ізалятары Аляксандр Марозаў трымаў галадоўку.

**Паводле Barysau.by**

# Маладафронтаўцы рэзка адказалі паслу Сурыкаву

«Пасольства Расіі «трохі хвалюе» з'яўленне партрэта Бандэры на Дні Волі ў Мінску», — заявіў на прэс-канферэнцыі ў Мінску 27 сакавіка пасол Расіі Аляксандр Сурыкаў.

Банер з партрэтам Бандэры побач з выявамі шэрагу беларускіх нацыяналістаў XX стагоддзя прынеслі на дэманстрацыю 25 Сакавіка маладафронтаўцы. На сайце Маладога Фронту з'явіўся і адказ на выказванні пасла Расіі.

«Увесь свет занепакоены пытаннем: колькі яшчэ часу вашая «бензазапраўка» (якую вы лічыце краінай) будзе лезці ў справы незалежных дзяржаў? — гаворыцца ў адказе. — Колькі яшчэ вашы бандыты ў пагонах будуць бараніць дыктатараў і князькоў ва ўсім свеце?»

«Мы не лезем ў справы вашай краіны, не спрабуем скрасці частку вашай тэрыторыі, — пішуць маладафронтаўцы. — Дык чаму вы лезеце ў душу да сваіх суседзяў? Чаму вы павінны вырашаць, хто наш нацыянальны герой?»

Сцяпан Бандэра быў адным з лідараў Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў, што вяла змаганне за незалежнасць Украіны са зброяй у руках. Ён сядзеў спачатку ў польскай турме, а пасля і ў нацысцкім канцлагеры — пасля таго як бандэраўцы насуперак немцам абвесцілі пра стварэнне незалежнай Украіны.

Постаць Бандэры выклікае шмат гістарычных спрэчак. Зрэшты, як і постаці Вітушкі і Гадлеўскага, якія прысутнічалі на банеры побач з Бандэрам. Усе яны хутчэй падзяляюць, чым яднаюць. Для ўкраінцаў Бандэра застаецца, аднак, сімвалам барацьбы з расійскай і польскай акупацыямі.

Бандэра не меў непасрэднага дачынення да Беларусі, калі не лічыць таго, што нейкі час, да 1939 года, сядзеў у польскай турме ў Брэсце. Выйшаў, калі перад прыходам немцаў 14 верасня 1939 ахова турмы разышлася. Акрамя таго, Бандэра быў ініцыятарам стварэння пасля Другой сусветнай вайны Антыбальшавіцкага блока народаў, у які ўваходзілі і беларускія эміграцкія арганізацыі.

Забіў яго ў 1959 агент савецкага КГБ. Пазней гэты агент раскаяўся і перабег на Захад.

**Мікола Бугай**

# Салісту гурту Napoli разбілі галаву ў пацанскіх разборках

**Канфлікт у кабаку** скончыўся смерцю спевака.

«Уначы 23 сакавіка каля кавярні побач з Дзяржынскам у выніку канфлікту быў траўмаваны 24-гадовы музыка. З закрытай ЧМТ цяжкай ступені ён быў шпіталізаваны ў медустанову, дзе 26 сакавіка памёр», — паведаміла прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Мінскай вобласці Таццяна Беланог. А за стрыманым паведамленнем — трагедыя маладой сям'і, што засталася без мужа і бацькі.

Як расказваюць знаёмыя, саліст гурту Napoli Ілля Краўчук у той вечар прыехаў у кавярню паслухаць калектыў свайго знаёмага. Падчас канцэрта выпіў, але няшмат. А пасля счапіўся з іншым наведнікам. З чаго ўсё пачалося, высвятляюць следчыя. Мо каб хлопцы былі цвярозымі, то ўсё і скончылася б толькі на павышаных танах. Але Іллю ўдарылі. Прадоўжыліся разборкі ўжо на вуліцы, куды падцягнуліся сябры з абодвух бакоў. Спевака піхнулі, ён паваліўся і разбіў галаву. І праз тры дні памёр у бальніцы. Іллю Краўчука пахавалі ў родным Дзяржынску. У яго засталіся жонка і трохмесячная дачка.

Крымінальная справа заведзена ў адносінах да мінчука, 1981 года нараджэння. Яго абвінавацілі ў прычыненні смерці па неасцярожнасці. За такое даюць да трох гадоў калоніі.

*Napoli* — R'n'B/Dance гурт, быў створаны ў 2012. У яго складзе працавалі Ілля Краўчук, Вольга Шыманская, Ілона Мунцян. Спяваюць па-расійску і англійску. Сёлета каманда ўдзельнічала ў нацыянальным адборачным конкурсе на «Еўрабачанне» з кампазіцыяй «Stay with me». Па тэлебачанні і сёння можна бачыць кліп гурту на песню «Ты і я».

**СМ**


VK.COM/NAPOLI.Music


Калі «БМВ» усё-ткі спынілася, аўто было ўжо добра пабітае.

# Кіроўца пад наркатой справакаваў сем аварый

А калі яго злавілі — ускрыў сабе вены.

Адныя бачылі гэтага кіроўцу 24 сакавіка на сталічнай вуліцы Першамайскай, дзе ён падрэзаў іншае аўто, якому праз гэта ўехалі ў бачыну. Затым спыніўся, але праз колькі секунд пранёсся па сустрэчнай паласе, «згубіўшы» пры гэтым бампер. Іншыя бачылі дзіўнага кіроўцу — на вуліцах Ульянаўскай, Бабруйскай, Харкаўскай... Ён не прапускаў пешаходаў, праязджаў на чырвоны сігнал святлафора, чапляў суседнія аўто... Усё адбывалася каля 17.00, калі на дарогах было шмат машын. Чорны «БМВ» лавілі некалькі экіпажаў ДАІ каля дзвюх гадзін. Удалося толькі на вуліцы Мініна, калі кіроўца зачапіў грузавік, кінуў машыну і пабег. Але далёка ўцячы не паспеў. Ён схапіў з зямлі шкляную бутэльку і разбіў яе, а аскепкамі пачаў ускрываць сабе вены. Тут яго і скруцілі інспектары ДАІ. Ужо ў бальніцы ён расказаў, што прымаў парашок пад назвай «Хуткасць».

Высветлілася, што 24-гадовага кіроўцу «БМВ» пазбавілі правоў за кіраванне ў стане алкагольнага альбо наркатычнага ап'янення. З таго моманту мінула год і два месяцы — таму канфіскацыі аўто не падлягае. Цяпер на яго склалі больш за паўтара дзясятка пратаколаў: ён справакаваў сем аварый. На шчасце, акрамя кіроўцы «БМВ» ніхто моцна не пацярпеў.

«Хуткасць» (спіды, азвярын, фен) — сінтэтычны стымулюючы наркотык, які кураць, удыхаюць, глытаюць альбо колюць. Пасля ўжывання ў чалавека адбываецца выкід энергіі, ён узбуджаецца, знікаюць стома і голад. Эфект доўжыцца ад чатырох да васьмі гадзін. Працяглае ўжыванне «Хуткасці» можа прывесці да псіхозаў, выклікае стан параноі.

**Кастусь Матушыч**

**Вышук**



**Аматар камінаў**

30-гадовага мінчука падазраюць у махлярстве. Ён шукаў абвесткі аб продажы аўтамабіляў, прасіў аўто на пару дзён для тэстдрайву, а сам машыну прадаваў. У пакупнікоў браў грошы і абяцаў у найбліжэйшы час заняцца афармленнем дакументаў, але знікаў. Таксама ён прымаў замовы на выраб камінаў і печак, а пасля знікаў з перадаплатай. Хто пацярпеў ад чалавека на фота, звяртайцеся на: (044) 581-11-26, (017) 257-02-03.



**Залатая ручка**

Жанчына на фота працавала ў ювелірнай майстэрні ў Мінску на пр.Незалежнасці, 93. Яна падазраецца ў тым, што прымала лом золата для вырабу ўпрыгожанняў, а ў выніку яго часткова прысвойвала. Хто пацярпеў ад жанчыны, звяртайцеся на: (017) 285-70-29, (029) 112-95-76.

# Пасля аварыі застаўся без рукі — патрэбна дапамога

**Наступствы трагедыі** ў Рэчыцы.

19 сакавіка ў Рэчыцы п'яны кіроўца на «Крайслеры» ўрэзаўся ў натоўп людзей на прыпынку. Тры мужчыны загінулі, яшчэ двое знаходзяцца ў бальніцы (падрабязна пра аварыю «НН» пісала ў мінулым нумары). У малодшага пацярпелага, 19-гадовага Міхаіла, ампутавалі левую руку. Яго 20-гадоваму сябру Дзмітрыю дактары выратавалі ногі. Абодва хлопцы пераведзены з рэанімацыі ў траўматалогію.

«Фізічна і маральна Міша нармалізуецца. Нават нас спрабуе суцяшаць, мауляў, жыццё працягваецца. Дзіму чакае трэцяя аперацыя на нозе. Хадзіць ён будзе, але давядзецца гэтаму нанова вучыцца», — расказала сястра Мішы Кацярына.

**Сяргей Макарэвіч**

Родныя Міхаіла цяпер збіраюць грошы на рэабілітацыю і пратэз для яго. Дапамагчы можна праз дабрачынныя рахункі ў «Беларусбанку», БП №323, г. Рэчыца, вул. Леніна, 52а, УНП 400207877, МФА 151501661:

**у беларускіх рублях** — транзітны рахунак №3819382100255 на дабрачынны рахунак №000046, бестэрміновы;

**у далярах** — транзітны рахунак №3819382102367 на дабрачынны рахунак №000088, бестэрміновы;

**у еўра** — транзітны рахунак №3819382102367 на дабрачынны рахунак №000031, бестэрміновы;

**у расійскіх рублях** — транзітны рахунак №3819382102367 на дабрачынны рахунак №000030, бестэрміновы;

Прызначэнне плацяжу — на лячэнне Маёрава Міхаіла Аляксандравіча.

## Сцісла

**У БНТУ забіўся былы студэнт**

32-гадовы хлопец скончыў універсітэт два гады таму. 25 сакавіка яго знайшлі павешаным у падсобцы 17-га корпуса БНТУ на вуліцы Якуба Коласа. Мяркуецца, што ён скончыў жыццё самагубствам.

**Мільён даляраў і залатыя зліткі**

А таксама два аўтамабілі за 130 тысяч даляраў, тры кватэры ў Мінску канфіскавалі ў межах расследавання крымінальнай справы ў адносінах да кіраўніка «Беллегпрама» Міхаіла Сучкова, дырэктара Слонімскай камвольна-прадзільнай фабрыкі, якая ўваходзіць у канцэрн, і траіх кіраўнікоў камерцыйных структур. Усім фігурантам справы прад'яўлены абвінавачанні: службовым асобам — у атрыманні хабару, прадстаўнікам фірм — у дачы хабару.

**Клінічная смерць пад зямлёй**

Трое падлеткаў гулялі ў кар'еры (капалі тунэль), і двух хлопцаў засыпала пяском. Аднаго з іх адкапаў сябар, другога дасталі толькі выратавальнікі. 17-гадовы хлопец шпіталізаваны ў рэанімацыю з механічнай асфіксіяй і клінічнай смерцю. Яго стан вельмі цяжкі.

**Адкажа як наркагандляр**

17-гадовы вучань адной са сталічных школ падазраецца ў распаўсюджванні псіхатропаў. Падлетка затрымалі падчас закладкі ў тайнікі курыльных сумесяў, у якіх утрымліваецца псіхатропны кампанент (быў кур'ерам). Пры ім было 9,9 г размеркаваных па порцыях «міксаў». Хоць ён толькі пераносіў спайсы, адказваць будзе на роўні з наркагандлярамі — размежавання ў законе паміж імі няма.

**Забіў з рэўнасці**

Расіянін вырашыў забіць жаніха сваёй былой каханкі на глебе рэўнасці, калі даведаўся пра іх хуткае вяселле. Спачатку спланаваў забойства, а затым прыехаў з Расіі ў Оршу, дзе і зарэзаў суперніка. Цела 40-гадовага таксіста знайшлі каля вёскі Стахаўка на дарозе Орша—Дуброўна. Цяпер расіяніну пагражае пакаранне аж да расстрэлу.

**Афіцэр застрэліўся на вачах у калег**

32-гадовы супрацоўнік Гродзенскай абласной міліцыі праходзіў вучэбна-метадычныя стрэльбы, падчас якіх стрэліў сабе ў галаву з табельнага пісталета. Следчы камітэт праводзіць праверку. У афіцэра засталіся жонка і малая дачка.

**КМ**

Гісторыя жыцця **самага паспяховага беларускага святара**.

# Айцец Фёдар —

Настаяцель царквы Усіх Святых у Мінску добра знаёмы нават тым, хто не цікавіцца праваслаўем. Фёдар Поўны — часты госць на тэлебачанні. Ён жа побач са спартсменамі і прэзідэнтам на важных спаборніцтвах. Менавіта ў яго царкву Лукашэнка ў апошнія гады прыходзіць на вялікія святы.

«Наша Ніва» расказвае гісторыю жыцця Фёдара Поўнага — самага набліжанага да ўлады беларускага святара, які не хавае сваіх амбіцый і сувязяў з палітыкай.



Фёдар Поўны нават перамагаў у «Тэлевяршыні».

Афіцыйнае агенцтва БелТА адмовілася прадаць «Нашай Ніве» фота Фёдара Поўнага. Нягледзячы на канстытуцыйную роўнасць СМІ, незалежным газетам не даюць доступу да банка афіцыйных фотаў асобаў, набліжаных да Аляксандра Лукашэнкі.



Вясельнае фота Пятра і Марыі Поўных.

**Протаіерэй Фёдар Поўны**

Нарадзіўся ў 1959 у Брагінскім раёне Гомельскай вобласці. Вучыўся ў Мінскім тэатральна-мастацкім інстытуце. Пасля службы ў войску вучыўся ў маскоўскіх духоўных школах. Быў асабістым сакратаром Філарэта.

Служыў у Мінскім кафедральным саборы (1986-1987), Храме-помніку рускай славы ў Лейпцыгу (1987-1994). Пасля вяртання ў Мінск заняўся будаўніцтвам храма Усіх Святых і Дома міласэрнасці. Жанаты, мае дачку.

### Карані айца Фёдара

Пятро Поўны, бацька айца Фёдара, стаў святаром, яшчэ калі праваслаўе было фактычна пад забаронай, у 1950-я гады. Яго згадваюць добрым словам у многіх гарадах і вёсках Гомельшчыны, дзе яму давялося служыць.

Але спачатку была вучоба ў Жыровіцкай семінарыі. Там Пятро і пазнаёміўся з харысткай Марыяй. Разам яны пражылі каля 40 гадоў.

Калі Поўны служыў у брагінскай вёсцы Сялец (а гэта быў адзіны храм на тэрыторыі трох суседніх раёнаў), у сям'і нарадзіўся першынец Фёдар. Адтуль у 1960 годзе святара перавялі ў вёску пад Гомелем. У Галоўчыцах ён адслужыў тры гады, пакуль царкву не закрылі — замест яе запрацаваў сельскі клуб.

Праз нейкі час айцец Пятро апынуўся ў Калінкавічах. Там закрылі адзіную ў горадзе царкву, але мясцовыя вернікі не здаліся. Яны выбілі-такі дазвол пабудаваць хаця б драўляны, з вясковай хаты, храм на ўскрайку горада.

«У 1964 годзе, калі мы дабудавалі царкву Успення Багародзіцы, сюды прыслалі сталага святара. А той кажа: нешта ў вас тут нават хору няма, я лепш з маладым памяняюся, — расказвае Юлія Грабеншчыкова (Тарашкевіч), якая некалькі дзесяцігоддзяў была ў царкве казначэем. — Вось айцец Пятро і прыехаў сюды. Стаялі адныя сцены. А ён і рамы ставіў, і іканастас рабіў — усю працу выканаў!»

Праўда, праз некалькі месяцаў Пятра зноў забралі бліжэй да Гомеля. І ён пачаў будаваць храм у вёсцы Яроміна.

А ў пачатку 1990-х Пятро Поўны вярнуўся у Галоўчыцы, у вясковы драўляны храм, у якім служыў 30 гадоў таму.

### Жахлівая смерць маці

Юлія Грабеншчыкова з прыемнасцю ўзгадвае айца Пятра. Нават пасля ягонага ад'езду яны падтрымлівалі сувязь. І калі ў Калінкавічы прыязджалі высокія чыны БПЦ, Юлія Міронаўна заўсёды дапамагала арганізаваць сустрэчу гасцей. Аднак у канцы 90-х сувязь з Пятром Поўным на некаторы час была згублена. «Я яго доўга шукала: куды падзеўся Пятро Поўны?» — узгадвае яна. Аказалася, што айцец Пятро прыняў пострыг і змяніў імя на Феадосій. Гэтаму папярэднічала трагічная гісторыя.

У ноч на 7 жніўня 1994 года двое злачынцаў залезлі ў гомельскі дом Поўных праз адчыненую фортку. Разлічвалі, што святар захоўвае дома грошы. Бандыты пырснулі гаспадарам у вочы газам з балончыка і пачалі збіваць, патрабуючы прызнацца, дзе схаваныя даляры. Нічога не дазнаўшыся, урэшце сышлі, прыхапіўшы з сабой сем іконаў.

Гаспадароў яны загарнулі ў дываны і звязалі. Пятро здолеў выбрацца жывым, а вось 63-гадовая матушка Марыя загінула. Экспертыза паказала, што яна памерла ад удушша... Жанчыну пахавалі на манастырскіх могілках у Жыровічах, на радзіме. Там застаўся і Пятро-Феадосій.

Цяпер ён архімандрыт, духоўнік Свята-Успенскага Жыровіцкага манастыра. Узрост бярэ сваё, і шмат часу сыходзіць на лячэнне.



Усіхсвяцкая царква з помнікам Аляксею II на ўваходзе — самы пампезны храм Мінска.

### Браты Поўныя

Фёдар быў старэйшым сынам у сям'і. Два ягоныя браты таксама пайшлі па царкоўнай лініі.

Малодшы, протадыякан Павел, служыць у братавай царкве Усіх Святых і дапамагае Фёдару. Пазалетась яму ўручылі ордэн Кірылы Тураўскага — адну з найвышэйшых узнагарод Беларускай праваслаўнай царквы.

Сярэдні, Генадзь, заняўся навукова-выкладчыцкай дзейнасцю. Яшчэ за савецкім часам ён стаў кандыдатам багаслоўя. Адзін з ягоных найбольш цытаваных артыкулаў — аб шкодзе стварэння аўтакефальных цэркваў. «Гэта можа выкарыстоўвацца ў палітычных мэтах», — засцерагаў ён у 1990-я. Цяпер Генадзь — дацэнт Мінскай духоўнай акадэміі.

### Лётчык-дызайнер-сакратар

А вось сам Фёдар Поўны спыніўся на царкве не адразу. Ягоная душа прагнула палёту ў прамым і пераносным значэнні слова. «У 8-м класе думаў з'ехаць вучыцца ў Чарнігаўскае ваенна-авіяцыйнае вучылішча», — прызнаваўся ён. Але не адпусціла маці.

Па адукацыі Фёдар — дызайнер, адвучыўся на адпаведным факультэце Акадэміі мастацтваў (тады Тэатральна-мастацкі інстытут). Але пасля службы ў войску вырашыў пайсці па бацькавым шляху — у праваслаўе.

Падчас вучобы ў Маскоўскай духоўнай акадэміі Поўны сышоўся з мінскім мітрапалітам Філарэтам, які быў яшчэ і старшынёй Аддзела замежных царкоўных сувязяў, і патрыяршым экзархам Заходняй Еўропы. Фёдар стаў ягоным асабістым сакратаром.

Менш чым праз год пасля пасвячэння ў святары яго адправілі служыць у Германію. Поўнаму было ўсяго 27 гадоў — самы малады савецкі святар, накіраваны за мяжу!

Многія даследчыкі рэлігіі пісалі, што ў савецкі час сакратарамі старшыні Аддзела замежных царкоўных сувязяў працавалі выключна супрацоўнікі спецслужбаў. Гэтаксама і святарамі за мяжу накіроўвалі толькі людзей, звязаных з КДБ. Вядома, дакументы пра гэта застаюцца закрытымі, таму з пэўнасцю нічога сцвярджаць няможна.

### Калега стаў зяцем

Закінуць слова за Фёдара мог і яшчэ адзін уплывовы беларускі святар — Іаан Харашэвіч. Ён адказваў за прыём замежных гасцей у мінскай епархіі, а раней паспеў паслужыць у Алма-Аце, на Каспіі і ўрэшце разам з сям'ёй быў закінуты ў Германію.

Ягоны сын Уладзімір адвучыўся на медыка, а пасля таксама пайшоў у святары. Была яшчэ і дачка Алена.

Калі Іаан разам з дачкой прыйшоў на сустрэчу з Філарэтам і ягоным сакратаром Фёдарам, мітрапаліт адразу вызначыў: «Добрая жонка будзе!». Прароцтва спраўдзілася і Фёдар з Аленай пабраліся шлюбам. Жонка ў Поўнага — журналістка, працавала на радыё, а да нядаўняга часу была намеснікам дырэктара холдынга «Мінск-Навіны». Цікава, што падпісвалася яна дзявочым прозвішчам.

### Перабудова і вяртанне

У сярэдзіне 1987 года Філарэт і Харашэвіч адправілі маладога святара далей ад беларускай радыяцыі. Служыць ён стаў у Храме-помніку рускай славы ў Лейпцыгу. Маладая жонка Алена адчувала тут сябе як дома — у той самай царкве сем гадоў служыў яе тата. Неўзабаве ў сям'і нарадзілася дачка, яе таксама назвалі Аленай. «Дзетак праз Чарнобыль больш не было», — лаканічна заўважаў Фёдар у інтэрв'ю.

Як і разлічваў Філарэт, спрытны святар заняўся актыўнай грамадскай дзейнасцю. Пры ягонай дапамозе на аздараўленне вывозіліся сотні, калі не тысячы беларускіх дзяцей, пацярпелых ад наступстваў Чарнобыльскай катастрофы. А сам Поўны атрымаў досвед і сувязі, якія дапамаглі яму ў будучыні.

У канцы 1980-х адбылася сустрэча Міхаіла Гарбачова і патрыярха Пімена, прымеркаваная да 1000-годдзя хрышчэння Русі. Пасля яе ціск на рэлігію зменшыўся, праваслаўныя атрымалі дазвол на адкрыццё новых храмаў. У Мінску вернікам спачатку была перададзеная царква Марыі Магдалены, у якой апошнія дзесяцігоддзі знаходзіўся кінаархіў.

Філарэт прызначыў настаяцелем цесця Поўнага, Іаана Харашэвіча. «Галоўнай святыняй храма з'яўляецца часціца мошчаў Марыі-Магдалены, якую перадаў зяць», — прызнаваўся святар. Разам з ім храм аднаўляў сын Уладзімір. Цяпер Харашэвіч-малодшы — протаіерэй у бацькавай царкве.

А неўзабаве магчымасць пабудаваць «сваю» царкву атрымаў і Фёдар. У 1991 годзе Філарэт расказаў яму, што праваслаўнай царкве выдзелілі два новыя ўчасткі пад будаўніцтва ў Мінску — на вуліцах Прытыцкага і Каліноўскага. І прапанаваў Фёдару вяртацца з Лейпцыга і ўзяцца за стварэнне храма Усіх Святых. Поўны пагадзіўся, хоць меў у Германіі від на жыхарства.

### Бізнэс-праекты

Што праўда, будоўля пачалася няхутка, а ішла яшчэ марудней. То не было грошай, пакуль не дапамагла дзяржава, то настаяцеля займалі іншыя клопаты.

Тым больш ён заставаўся ў Германіі. З Лейпцыга ён канчаткова вярнуўся толькі ў самым канцы 1994 года.

# духоўнік Лукашэнкі

Тады якраз грымела гучная справа — дзейнасць кампаніі «Дыяконія», створанай пры Беларускім экзархаце. За кошт вызвалення ад падаткаў і збораў бізнэс быў надзвычай паспяховым. Праз «Дыяконію» ў Беларусь прыплывалі бясконцыя партыі тавараў. Адным з асноўных накірункаў дзейнасці кампаніі быў імпарт дарагога алкаголю.

Яшчэ адным паспяховым бізнэс-праектам Фёдара Поўнага, які ўзначаліў аддзел знешніх сувязяў БПЦ, стала будаўніцтва Дома міласэрнасці. Ідэяй стварэння сацыяльнага цэнтра ён шчыльна заняўся па вяртанні з Германіі.

### Медцэнтр з гатэлем

Дзякуючы ягоным і Філарэтавым сувязям, у краіну з размахам пацякла гуманітарная дапамога. Дзякуючы ёй, у 2002 годзе Дом міласэрнасці запрацаваў.

У першапачатковую задуму час унёс змены. «Дом міласэрнасці дапамагае ўсім», — заяўляў Фёдар Поўны. А пасля ўдакладняў, што некаторыя катэгорыі насельніцтва яго не цікавяць: «Гэта не ўстанова для састарэлых. Бяздомных і дармаедаў тут не заахвочваюць».

Што Дом міласэрнасці ўяўляе сабой цяпер? Перадусім, нятанны прыватны медыцынскі цэнтр. Тэхнікі, падоранай замежнікамі, хапіла з лішкам. Патрыярх Аляксей II, які курыраваў будоўлю, напрыклад, падарыў стаматалагічны кабінет. Хірургія, касметалогія, стаматалогія, дыягностыка, догляд і рэабілітацыя хворых — усё гэта працуе на высокім узроўні, але і па адпаведных рынкавых цэнах. Прыйсці ў Дом міласэрнасці і проста папрасіць міласэрнасці ў вас не выйдзе.

Ёсць тут і «Мітрапалітава гасціная». Іншымі словамі — невялікі гатэль, які па сваіх характарыстыках адпавядае тром ці чатыром зоркам камфорту. Чаго вартыя хаця б падагрэў падлогі ў кожным з нумароў. Што праўда, цэны дэмакратычныя. За ноч на дваіх у двухузроўневых апартаментах павышанай камфортнасці трэба заплаціць усяго $90. Напрыклад, у трохзоркавай «Планеце» самы танны нумар для дваіх каштуе $140.

### Святар у Драздах

Фёдар Поўны — адзіны прадстаўнік царквы, які атрымаў запрашэнне пасяліцца ў Драздах, звышэлітным квартале для чыноўнікаў і бізнэсменаў. Святар расказваў, што браў крэдыт на будаўніцтва. Цяпер яму належыць 15 сотак, а на іх — невялікі двухпавярховы катэдж. Сярод суседзяў яго вылучае ікона на фасадзе.

Але гэта не ўся нерухомасць Поўных. Даўным-даўно сям'я (Фёдар і браты) атрымала ажно тры кватэры ў прэстыжным доме па вуліцы Старажоўскай, на ўзбярэжжы Свіслачы. Гэта той самы дом, да якога Юрый Чыж прыбудаваў свой гмах «Ля Траецкага».

Чатырохпакаёўка засталася дачцэ Фёдара Поўнага, яшчэ адна кватэра запісаная на самога святара. А трэцюю кватэру протаіерэй у сярэдзіне 2000-х гадоў у прадаў за гіганцкія на той час $115 тысяч дачцэ Уладзіміра Пефціева (невядома, ці таго самага мільянера).



Айцец Фёдар заўсёды стаіць побач з Філарэтам і Лукашэнкам, хай і на другім плане.

## Правілы жыцця Фёдара Поўнага

• Я бачыў, колькі ў Лондан (на Алімпіяду — «**НН**») панаехала ўсякіх ведзьмакоў і іншай поскудзі. На мне заўсёды быў крыж з 33 часціцамі святых мошчаў, схаваны ад вачэй. Як жа адчувалі яго гэтыя людзі, часам проста кідаліся ўбок.

• Калі на самалёце лячу, у мяне ў навушніках гучыць Псалтыр або Акафіст свяціцелю Мікалаю. Гэта значыць, увесь маршрут фактычна асвячаецца малітвай.

• І горныя лыжы вельмі люблю. Пакуль падымешся на гару, усхваліш Творцу за navакольную прыгажосць. А потым трошкі задавальнення атрымаеш. Самая вялікая хуткасць, якую засек па навігатары, — 123 км/г.

• Многае залежыць ад таго, як чалавек першы раз увойдзе ў храм і хто яго там сустрэне. Часта бывае, калі звычайны свецкі чалавек пачынае павучаць таго, хто робіць першыя крокі ў храм, — і ў нашай парафіі гэта вельмі рэзка спыняецца.

• Як ты павінен жыць, як павінен рабіць — не нейкія органы кантролю, не Дзяржкантроль вызначае, а сам Бог у цябе самы галоўны кантралёр.

• Прыходзіць жонка з царквы, а муж ляжыць на канапе каля тэлевізара побач з гарой недакуркаў. Не трэба пачынаць яго пілаваць: «Ах, такі-сякі». Хай ён твой боль, твой клопат, але прынясі яму з храма пасху, падыдзі да яго з радасцю — і ён безабаронны.

• Можна гэтак выпукліць жывот, распушыць бараду, пальцы па-крутому растапырыць: «Я будую храм!» А можа быць зусім іншая ўнутраная настроенасць: «Мне Госпад даверыў такую справу. Якая ж мера маёй адказнасці!» І тады самая галоўная служба кантролю — тваё сумленне.

• Ну паехаў прэзідэнт з малым да Папы. Не трэба ж з гэтага рабіць шоу. А хто робіць? Ён? Не! Гэта робяць тыя, хто здымае, фатаграфуе і піша…

• Многія (напрыклад, нашы апазіцыянеры) пакутуюць на тое, што крытыкуюць людзей навокал. Але гэта ж самае простае! А вы вазьміце і пакажыце супрацьлеглы прыклад…

• Я з усімі добра знаёмы і з усімі маю шчырыя адносіны. З нашым прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам у тым ліку.



Катэдж айца Фёдара ў Драздах упрыгожаны іконай.

Апроч таго, у Доме міласэрнасці працуюць майстэрні па вырабе адзення для святароў, ладзяцца разнастайныя рэлігійныя сустрэчы, сюды прыязджаюць праваслаўныя дэлегацыі з усяго свету. Дый «дары вешчуноў» Фёдар Поўны прывёз менавіта сюды.

### Прыдворны святар

А што ж Усіхсвяцкая царква, дзеля якой айца Фёдара і заклікалі вярнуцца назад? У адным з самых велічных храмаў Мінска дагэтуль вядуцца апошнія аздабленчыя работы. Аднак нават у няскончаным выглядзе яе штогод на Раство наведвае Аляксандр Лукашэнка. Адметна, што ў царкве Фёдара Поўнага ён з'яўляецца часцей, чым у астатніх храмах.

Блізкасць да кіраўніка дзяржавы дапамагала протаіерэю і ў іншых яго справах.

Фёдар Поўны не хавае, што на момант адкрыцця Дома міласэрнасці не было ніякіх юрыдычных падстаў для яго існавання. Царква не мела права займацца падобнай дзейнасцю, але на гэта заплюшчылі вочы.

А пасля адкрыцця цэнтра протаіерэй нечакана даведаўся, што мусіць плаціць падатак на зямлю, што зусім не ўваходзіла ў яго планы. Але падатак удалося адмяніць.

Ці праўда, што Фёдар хрысціў Колю Лукашэнку? Святар не пацвярджае, але і не абвяргае: «Духоўныя моманты не афішуюцца».

### Палітычная і рэлігійная кар'ера

Імя Фёдара Поўнага называлася ў ліку імаверных кандыдатаў на месца мітрапаліта Філарэта. Прычым яму б не перашкодзілі ні статус «белага духавенства», ні жонка з дачкой. Паводле праваслаўных канонаў, ён мог сысці разам з жонкай у манахі (стаць «чорным духавенствам»), і паўналетняя дачка не бралася б пад увагу. У любым выпадку Масква прызначыла новым мітрапалітам Паўла (Георгія Панамарова), і дыскусія наконт перспектыў Фёдара адклалася на нявызначаны тэрмін.

Вось толькі большасць святароў недалюбліваюць Фёдара. Хтосьці за публічнасць, хтосьці — за прывілеі, атрыманыя ад улады. Дый у самога Поўнага амбіцыі не толькі рэлігійныя, але і палітычныя.

У 2008 святар мецікў у сенатары. Аднак пасля сустрэчы з патрыярхам Аляксеем II прынёс заяву ў ЦВК, што ён больш не хоча быць абраным у савет рэспублікі, паколькі не атрымаў дабраславення.

Падчас прэзідэнцкіх выбараў у 2010 Фёдар Поўны таксама выказаў сваю пазіцыю. Пасля таго, як старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына дэманстратыўна пакінула студыю ток-шоу «Выбар», ратаваць сітуацыю ўзяўся айцец Фёдар. «Тое, што адбываецца там, гэта страшна, — расказваў ён пра Плошчу. — Там правіць не дэмакратыя, а зусім іншыя сілы».

Не абышлося без Фёдара Поўнага і на Алімпіядзе ў Сочы. Ён быў адным з «заўзятараў у шкарпэтках», якія на чале з Лукашэнкам сустракалі ў «доме прэзідэнта» Дар'ю Домрачаву. Айцец Фёдар Поўны не падкідаў чэмпіёнку, сарамліва стоячы ўбаку. Затое падчас «чаяпіцця» не ўпусціў магчымасці падняць келіх віна і прамовіць тост: «Хачу павіншаваць нашага прэзідэнта, які так хваляваўся. Я быў сведкам гэтых хваляванняў і недзе нават адважыўся сказаць Аляксандру Рыгоравічу, што вы патрэбныя не толькі спорту, але і краіне».

**Адар'я Гуштын, Ягор Марціновіч,**
**Калінкавічы—Мінск**



Дом міласэрнасці служыць і вернікам, і хворым, і турыстам.

# Ягор Хрусталёў вярнуўся на беларускае тэлебачанне

Ён вядзе начное ток-шоу **«Вечар цяжкага дня»**.




Папулярны тэлевядучы заснаваў начное ток-шоу на канале «Беларусь-1». Ягоная праграма называецца «Вечар цяжкага дня».

Гэта гадзінныя гутаркі Хрусталёва са знакамітасцямі. Сярод першых гасцей студыі праанансаваныя Гоша Куцэнка, Анжаліка Агурбаш, Аляксандр Прахнаў і Нікас Сафронаў.

Перадача будзе выходзіць двойчы на тыдзень, па аўторках і чацвяргах, але час для яе абраны нязручны: пачатак у 23:55.

«Вечар цяжкага дня» — назва аднаго з альбомаў «Бітлз». Аднак гэтаксама называецца і праграма расі йскага незалежнага тэлеканала «Дождь». У ёй адразу пяцёра журналістаў баруць інтэрв'ю ў нейкай вядомай персоны.

Ягор Хрусталёў — адзін з сімвалаў беларускага тэлебачання пачатку 1990-х. Праграмы з яго ўдзелам — «Крок», «Карамболь» і іншыя — былі прарыўнымі для свайго часу.

У 2000-я Хрусталёў сышоў на АНТ, дзе стаў генеральным прадзюсарам, а заадно яшчэ і вядучым бяззубага ток-шоу «Выбар». Урэшце тэлевізійшчык паехаў скараць Маскву. Яго паклікалі працаваць прадзюсарам спецыяльных праектаў на расійскім забаўляльным канале СТС. За мяжой ён пражыў пяць гадоў.

**ЯМ**

# Нікас Сафронаў намалюе Домрачаву

Адкрылася выстава **скандальнага расійскага мастака.**

Скандальна вядомы мастак Нікас Сафронаў дэманструе ў Мінску персанальную выставу. Ён абяцаў, што на адкрыццё прыйдзе Аляксандр Лукашэнка, аднак не склалася.

«Я намалюю карціну да чэмпіянату свету ў Мінску ў падарунак беларускаму народу. Я ўжо намаляваў 10 карцін да Алімпіяды ў Сочы. Галоўную з іх, «Барс на гары», пасля купілі для Пуціна», — расказвае Сафронаў. Пуцін сярод аўтарытэтаў мастака, відавочна, займае самае пачэснае месца.

Партрэтаў прэзідэнта Расіі мастак зрабіў пяць ці шэсць — некаторыя міністры захацелі мець такі партрэт у сябе ў кабінеце.

Пра Беларусь мастак разважае шмат і ахвотна. Беларусы ў ягоным разуменні «гасцінныя, хлебасольныя рабацягі».

«Я хачу купіць сабе сядзібу ў Беларусі. Я бачыў сядзібу Рэпіна, цяпер там дом-музей. Думаю таксама купіць сядзібу па суседстве, калі-небудзь музей зробяць. Куплю сабе брычку і буду ездзіць ва Украіну, на Палтаву, там у мяне таксама дамок».

Сафронаў увесь час хваліцца неверагоднымі гісторыямі: нехта заплаціў мільён даляраў, каб купіць кватэру менавіта ў адным доме з ім, нехта восем гадоў ашчаджаў на партрэт, а на ягоныя выставы ходзяць актыўней, чым на Рэнуара.

Калі ў Сафронава спыталі, ці не плануе ён намаляваць партрэт Дар'і Домрачавай, той не адразу зразумеў, пра каго ідзе гаворка. Але адразу захапіўся ідэяй: «Вядома ж, я намалюю яе бясплатна, гэта і будзе мой падарунак беларускаму народу, і перадамо карціну ў музей, хай толькі паспрабуюць яе не ўзяць!»

**Юрась Ускоў**



**Нікас Сафронаў — модны расійскі мастак. Яго работы каштуюць дзясяткі тысяч даляраў. Ён малюе зорак эстрады, алігархаў ды чыноўнікаў у вобразах гістарычных славутасцяў. На фота творчае ўвасабленне Уладзіміра Пуціна.**

**Фотафакт**



**Вітанне з Гаагі**

**Сын старшыні ЦВК Лідзіі Ярмошынай апублікаваў чарговы здымак са сваіх падарожжаў. У адрозненне ад маці, адвакат Аляксей выязны, таму не губляе магчымасці катацца па свеце. На гэты раз ён адзначыўся ў Гаазе. Гэта галандскі горад, які вядомы Міжнародным крымінальным судом.**



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Страшэнная сіла,
## альбо Дагары нагамі

*«Адзінае, што апраўдвае маральную дэградацыю нашых газет, — гэта тое, што ёй спадарожнічае дэградацыя разумовая»*
*Гілберт К.Чэстэртон.*

У сеціве з'явіўся адкрыты ліст шэрагу супрацоўнікаў дзяржаўнага расійскага тэлебачання ў абарону вядучага РТР Дзмітрыя Кісялёва ад еўрасаюзаўскіх злыдняў.

Сярод падпісантаў — Дзмітрый Кайстра. Гэта ён *кайстрыраваў*, так бы мовіць, гісторыю, калі ў кісялёўскай праграме сцвярджаў, што Хатынь спалілі «бандэраўцы» і што менавіта яму беларускі КДБ першаму адкрыў нібыта дасюль засакрэчаную справу Васюры, які камандаваў паліцэйскім батальёнам карнікаў. Між тым, батальён быў пазбіраны з кадравых савецкіх афіцэраў і чырвонаармейцаў, у асноўным, што праўда, з украінцаў, аднак да УПА аніякіх адносінаў не меў. І справа Васюры даўно і да апошняй кропкі добра вядома. Кайстра хлусіў свядома, з адзінай мэтай — выклікаць у гледачоў праграмы нянавісць да «ўкраінскіх нацыяналістаў», якія нібыта і зладзілі Майдан.

Хлусіў, стоячы на папялішчы Хатыні.

Але я не пра Хатынь. Пра паплечнікаў Кісялёва і ягоных абаронцаў. Амаль кожны з іх зрабіў свой унёсак у Вялікую Хлусню, якую іх кумір з агрэсіўна-пафасным захапленнем пераапрацоўвае ў патрыятычна-прапагандысцкі бруд.

Гэта так смешна — назіраць, як самазакаханая тэлебалаболка надзімаецца самастворанай веліччу імперскай Расіі!

Між тым пра дзяржаўную пасаду новапрызначанага кіраўніка агенцтва РІА «Навіны» ў лісце не згадваецца. Нібыта Дзмітрый Кісялёў — журналіст, і толькі. З чаго павінна вынікаць, што Еўрасаюз увёў забарону на прафесію, на свабоду слова, перамяшчэння, увогуле парушыў базавыя прынцыпы дэмакратыі і грэбуе ледзь не ўсімі асноўнымі каштоўнасцямі еўрапейскай цывілізацыі.

Вось якая страшэнная разбуральная сіла — Дзмітрый Кісялёў! Не з'явіцца ў Куршавелі — абрынецца Еўропа з усімі сваімі каштоўнасцямі!

Што ж, нам у Беларусі ўсё гэта добра знаёма. Пасля Плошчы. Калі шэрагу чыноўнікаў, адказных за крывавыя падзеі, было адмоўлена з'яўляцца ў Еўропе. У іх ліку тым, хто ганарліва лічыць сябе журналістам. Пра што толькі не даведаўся тады беларускі чытач і глядач! І пра тое, што *«гэта фактычна не*

### Каб духу твайго тут не было!

*толькі расправа з іншадумцамі-журналістамі, але і забарона на прафесію»*... І пра тое, што *«складальнікі спіса ў Брусэлі забыліся на ключавы, фундаментальны прынцып дэмакратыі — свабоду слова»* ... І пра тое, што *«іх рашэнне з'яўляецца найгоршым узорам савецкай прапаганды, узводзіць жалезную заслону вакол еўрапейскіх дзяржаў»*...

«Расправа», «забарона», «свабода слова», «жалезная заслона», «іншадумства» — усё гэта скрадзена з дэмакратычнага лексікона.

Але нашто адмоўнікам ад Еўропы — і беларускім, а вось зараз і расійскім, — прыбірацца ў дэмакратычную тогу? З якога глузду выстаўляць сябе ахвярамі «еўрапейскага таталітарызму»?

Можна ўсё патлумачыць істэрыкай. Альбо хваравітай цягай да публічнага расчэсвання ран. Альбо нявыкараненай звычкай да цынічнага палітычнага прытворства. Ці ўсім разам...

Насамрэч жа, па-мойму, у згаданай істэрыцы хаваецца яшчэ адна, парадаксальная (а для Кісялёва і яму падобных нашых суайчыннікаў зусім непажаданая) асаблівасць: прызнанне маральнай перавагі дэмакратычных прынцыпаў. Бо яны, гэтыя прынцыпы, гістарычна вырастаюць з прынцыпаў высокай маралі.

Вось і намагаюцца чыноўнікі і прапагандысты, каго пазбавілі магчымасці «патусавацца» на еўрапейскіх форумах і курортах, выявіць з сябе пацярпелых за «іншадумства», «свабоду слова»...

Насамрэч забарона Кісялёву з'яўляцца на тэрыторыі Еўрасаюза вельмі нагадвае «каб духу твайго тут не было!»

Духу агрэсіі, распальвання міжнацыянальнай варожасці, падбухторвання да грамадзянскай вайны ў «братняй» дзяржаве....

Духу, якім наскрозь прасякнуты сфармуляваны ім свой базавы прынцып: журналістыка павінна абслугоўваць інтарэсы ўлады.

То бок, калі дзяржава (улада) мае інтарэс да кавалка чужой зямлі — кінем у бой усе свае прапагандысцкія сілы.

Не, з такім прынцыпам у Еўропе рабіць няма чаго. У Еўропе на гэты конт свой незабыўны досвед.

«У таталітарным рэжыме друк з'яўляецца элементам рэжыму і сілай, што знаходзіцца ў яго на службе... Таму італьянскі друк з'яўляецца цалкам фашыстоўскім». Так у свой час выказваўся Беніта Мусаліні. Але, як вядома, «сіла» не дапамагла дыктатару, хаця служыла яму верай і... Ледзь не сказаў «праўдай», што, безумоўна, было б яўным перабольшваннем. Наадварот, ягоны рэжым таму і зрынуўся, што хлусіў сабе, народу і ўсяму свету.

Хемінгуэй, помніцца, калі ў якасці журналіста трапіў на прыём да Мусаліні, заўважыў, як той «чытае» на ангельскай мове Шэкспіра, трымаючы кніжку дагары нагамі.

Можна было б палічыць выпадковасцю, калі б дыктатар гэтаксама, дагары нагамі, не скончыў свой хлуслівы крывавы век.

# Гомель. Катастрофа беларускай мовы

Працяг са старонкі 2.

Для дзяцей у Гомелі наогул, мякка кажучы, не створана ніякай «культурна-беларускай прасторы». «У мінулым годзе на ранішніку ў садку Уладзік расказваў Дзеду Марозу верш на беларускай мове, у гэтым годзе нас папярэдзілі, што ёсць сцэнар свята, вершы ўсе па сцэнары — на рускай мове, таму ніякіх беларускіх вершаў», — зазначае Марыя.

На гэты Новы год Уладзік прыйшоў на ранішнік у драматычны тэатр у вышыванцы, чым выклікаў здзіўленыя погляды.

Праблему можна было б вырашыць, каб Уладзік меў аднагодкаў, бацькі якіх таксама б імкнуліся да выхавання дзяцей сапраўднымі беларусамі.

«Што, беларускамоўныя нашы: з апазіцыі, ТБМ, грамадскія актывісты, журналісты — не маюць дзяцей?» — пытаемся мы.

Марыя смяецца ды жартам і ўсур'ёз дадае: «Беларускамоўныя, як правіла, шмат вучацца. Адукацыя ў іх не на апошнім месцы. Магістратуры, аспірантуры... А потым часта з'язджаюць. Не да дзяцей. Адзін-два максімум».

Сама ж маладая жанчына працуе бухгалтаркай, але на працы не размаўляе з калегамі на роднай мове. «Каштарыс, рахунак... Ад такіх слоў мае калегі ўпалі б у стан анабіёзу. Цяжкавата гэта прасоўваць аднаму», — дзеліцца суразмоўца.

Яшчэ некалькі гадоў таму яна сама і не думала пра беларускую мову, пакуль не пазнаёмілася выпадкова з сябрамі ТБМ, якія дапамаглі ёй выправіць памылкі ў напісанай для вучобы працы па беларускай мове. І так зерне беларушчыны трапіла на спрыяльную глебу.

«Я проста ўпершыню ўбачыла «жывых» людзей, якія размаўляюць цалкам на беларускай мове. Я ўсвядоміла, што яны існуюць, яны не вымерлі, як маманты. І гэта натхняе. Адэкватны чалавек мусіць ведаць родную мову, гэта паказальнік узроўню развіцця чалавека, яго выхаванасці, інтэлігентнасці. Мой бацька, ён з Віцебшчыны, заўсёды з павагай ставіўся да беларускай мовы, любіў яе, нешта і мне перадалося. У пачатковых класах у Гомелі, у школе №30, я вучылася на беларускай мове — ніхто не быў супраць, усе ўспрымалі гэта як належнае! А потым усё гэта скончылася — ужо ў пятым класе выкладанне ўсіх прадметаў пачалося на рускай мове, такая сітуацыя і цяпер», — адзначае Марыя.


Марыя Сідарэнка знайшла аднадумцаў у інтэрнэце.

Яна лічыць, што для рашэння праблемы варта было б, каб дзяржава клапацілася пра захаванне свайго, роднага — мовы, культуры, і каб людзі не былі абыякавымі.

«Трэба з дзяцей пачынаць: для іх арганізоўваць святы, імпрэзы, вясёлыя, пазнавальныя і цікавыя. Вось буду ўсё-такі спрабаваць нешта «прабіць» у нашым садку», — кажа Марыя.

Садок №160, дзе ёсць адна група з беларускай мовай выхавання, знаходзіцца на іншым канцы Гомеля. Бацькам Уладзіка прыйшлося б больш за гадзіну ехаць-ісці да садка раніцай, яшчэ гадзіну — ад садка да працы і столькі ж марнаваць часу на вяртанне дахаты вечарам. «Шчыра — нам вельмі нязручна было б вазіць туды штодзень Уладзіка, ён часта хварэе, а ехаць далёка, праз увесь горад», — дадае Марыя.

## Садок. Узорна-паказальная група

У садку №160, які месціцца на ўскрайку Гомеля, у Савецкім раёне, група з беларускай мовай працуе два гады. Дваццаць дзяцей весела шчабечуць, адказваючы на пытанні выхавальніцы пра назвы зімовых месяцаў. Потым, утварыўшы жывы цягнічок, праводзяць экскурсію па групе, паказваючы «цырульню, краму, дзе можна купіць хлеб духмяны», старанна хорам чытаюць вершык «Хлеб — святыня, хлеб — багацце, хлеб у хаце — шчасце ў хаце!».

З выхавальніцай Аксанай Гаўрыленка дзеці абмяркоўваць чырвона-зялёны сцяг. «Дзеці, якога колеру ў нас на сцягу болей — чырвонага ці зялёнага?» — «Чырвонага!» — «А чаму? А таму, дзеці, што сэрца якое ў нас, у беларусаў?» — «Добрае!»

Аксана Сяргееўна кажа, што пры стварэнні групы (па ініцыятыве аддзела адукацыі) не ўсе бацькі былі «за». «50 на 50. Але цяпер, я вас упэўніваю, усе бацькі задаволены! Дзеці прыходзяць дахаты і вучаць бацькоў, як правільна гаварыць. Некаторыя дарослыя не разумеюць і потым у мяне пытаюцца — што гэта за белыя валонкі ці іншыя словы. Я сама раней блага ведала родную мову, а зараз вучуся — разам з дзецьмі. Мне родная мова падабаецца, калі я пачала лепш яе разумець, ведаць, вельмі цікавыя вершы, загадкі, гульні, традыцыі. Вось мы неяк аб'ядналі ўсе каляндарныя святы — Вялікдзень, Купалле, Каляды, зрабілі такое свята — гадавое кола, было вельмі цікава і дзецям, і дарослым. Наша культура, традыцыі — невычэрпная крыніца», — упэўнівае выхавальніца.


Узорна-паказальная група з садка №160.

Яна шкадуе, што мала дыдактычнага, метадычнага матэрыялу па занятках на роднай мове. «Хацелася б больш мець дапаможнікаў для развіцця маўлення, напрыклад. Але нешта самі шукаем, набываем, робім», — кажа выхавальніца.

Намесніца загадчыцы садка Людміла Маёрава зазначае, што садок — гэта «пляцоўка для Інстытута ўдасканалення настаўнікаў», і тут часта праходзяць паказальныя мерапрыемствы.

Наогул, садок №160 ад свайго стварэння ў 1995 годзе меў напрамак беларусізацыі. Але потым гэта ўсё скасавалі, як і школы з беларускай мовай навучання. Цяпер беларусізацыя — гэта адна група, дваццаць дзетак. «Мы б і другую групу маглі адкрыць, каб была патрэба, каб бацькі жадалі гэтага», — прапануе Людміла Леанідаўна.

Яна, як і загадчыца садка Таццяна Маскоўкіна, працуе тут ад адкрыцця дашкольнай установы. Дзякуючы іх намаганням, у садку была створана «Беларуская хатка» з вышыванкамі, калаўротамі, ступамі, драўлянай калыскай, падвешанай пад столь, жорнамі, саламянымі лялькамі, партрэтамі Янкі Купалы і Якуба Коласа. Загадчыца кажа, што дзеці з задавальненнем займаюцца ў такім інтэр'еры. «Для нас жа гэта звыкла — вышыванкі, абрусы, калыска, а гарадскім дзецям усё гэта так у навіну!» — дадае загадчыца.

## Беларуская гімназія з рускай мовай навучання

«Беларускай» лічыцца ў Гомелі гімназія №36 імя Івана Мележа. Тут вучацца 454 вучні. (Па праекце ў гімназіі маглі б вучыцца больш за паўтары тысячы.) Гімназія размешчана ў Савецкім раёне, у спальным мікраёне.

Па сутнасці, тут нават у «беларускіх» класах такія прадметы, як матэматыка, фізіка, хімія, біялогія ды іншыя, выкладаюць на рускай мове. На роднай мове — сама мова і гісторыя Беларусі. Таксама на беларускай арганізаваны «выхаваўчы працэс». Што гэта значыць? Усе каляндарныя мерапрыемствы (дзяржаўныя, народныя святы), сваткаванне юбілеяў беларускіх паэтаў і пісьменнікаў праходзяць на беларускай мове. Таксама на роднай мове вядуцца класныя журналы і дакументацыя, праходзяць нарады, урачыстасці, Мележаўскія чытанні.

У гімназіі працуе бард Вальжына Цярэшчанка, выкладае беларускую мову, а таксама кіруе ўзорным ансамблем «Амялушкі». Заняткі ў калектыве праходзяць на беларускай мове, такі ж падбіраецца і рэпертуар.

## ВНУ: сістэма кіравання газавай блокавай гарэлкі па-беларуску

Нядаўна розгалас у СМІ набыла абарона дыплома па-беларуску ў Гомельскім політэхнічным універсітэце імя Сухога. Гэта была першая ў гэтай ВНУ за апошнія 10 гадоў дыпломная работа на роднай мове. Завочнік Андрэй Грабянчук з дапамогай свайго навуковага кіраўніка, загадчыка кафедры «Прамысловая электроніка» Юрыя Крышнёва распрацаваў сістэму кіравання газавай блокавай гарэлкі для катлаагрэгата. Праект быў ацэнены на 10 балаў.

Колькі год таму абараняў дыплом па-беларуску ў Беларускім дзяржаўным універсітэце транспарту і намеснік старшыні абласнога ТБМ Яўген Якавенка.

Тым часам, у Мазырскім педагагічным універсітэце не могуць набраць групу студэнтаў па спецыяльнасці «беларуская мова і літаратура». Восенню ўніверсітэт падвёў вынікі паступлення: з запланаваных 400 чалавек на бю-джэтныя аддзяленні стацыянара недабор склаў 110 чалавек. Незапатрабаванымі аказаліся філалагічныя спецыяльнасці. Асабліва «беларуская мова і літаратура». Размічваючы зрабіць спецыяльнасць «беларуская мова і літаратура» больш прываблівай, дадалі да яе ангельскую мову, але і гэта не дапамагло: ніводнай заявы на 2013—2014 год.

У Мазырскім універсітэце беларускую мову і літаратуру з дадаткам «нямецкая мова» вывучаюць толькі шэсць чалавек. І гэта ўлічваючы той факт, што на асобныя спецыяльнасці ў апошні час універсітэт праводзіць цыклічны набор, то бок праз год.

Хто ж хоча ісці ў настаўнікі, калі гэта найменш аплачваная прафесія цяпер?

Пакуль мова трымаецца на такіх волатах духу, як Крышнёў, Цярэшчанка, Якавенка, Сідарэнка. І цяга да мовы ёсць — інтэрнэт таму сведчанне. Але каб мова вырвалася з інтэрнэту на вуліцы, патрэбная дзяржаўная воля.

**Юлія Шымкевіч, Гомель.**
**Фота аўтара**

# «Падцягнулі. Толькі не Усходнюю да Заходняй, а наадварот. П’янства, мацюкі…»




Лукашэнка 23 сакавіка разважаў пра Заходнюю і Усходнюю Украіну і Беларусь так: «Падзялілі, я яшчэ раз падкрэсліваю, Украіну на Заходнюю і Усходнюю толькі палітыкі. Таксама можна правесці паралель, вы гэта бачылі, у нас тая ж сітуацыя была: Заходняя Беларусь і Усходняя. Яшчэ да прэзідэнцтва, будучы дэпутатам, калі пачынаў працаваць, я часта бываў у Заходняй Беларусі і захапляўся, як яны працуюць, асабліва ў Гродзенскай вобласці. Я працаваў на самым усходзе і захапляўся іх працай. Мы заўсёды казалі пра тое, што дзякуючы таму, што яны там, у заходняй частцы, жылі ва ўмовах прыватнай уласнасці, яны навучыліся працаваць, не страцілі ўменне працаваць. А мы на ўсходзе так, несур’ёзна.
Але мы ж гэтую мяжу ніколі не праводзілі, што Заходняя Беларусь — гэта такія дрэнныя, нядобрыя, чужыя, а на ўсходзе — гэта добрыя людзі. Мы ніколі так не казалі! Перад мной стаяла задача — выраўняць такую сітуацыю. І мы выроўніваем яе за кошт падцягвання ўсходніх абласцей да ўзроўню гаспадарання і працы ў заходніх.
Гэта наша дасягненне, што сёння ўжо няма ніякай розніцы. Нават я не мог тады такога ўявіць. Сёння гэта ёсць насамрэч, бо мы праводзілі вельмі акуратную палітыку», — пахваліўся Лукашэнка.
«Так, сапраўды «падцягнуў»… Толькі Заходнюю да Усходняй», — так адгукнуўся на заяву Аляксандра Лукашэнкі чытач пад нікам Жухоўскі.
«Маладое пакаленне цалкам зрусіфікавана. Мацюкі, п’янства, гультайства… Можна канстатаваць — уніфікацыя адбылася», — піша Жухоўскі.

# У нас, у Амерыцы, народ працавіты і веруючы

Пішу да зацемкі «У Амерыцы ставяць помнік сатане» — так сказаў епіскап Гурый.
Відаць, што епіскап зусім не ведае амерыканцаў. Абсалютная большасць амерыканцаў — працавітыя, сумленныя і вельмі веруючыя людзі. Яны і зрабілі Амерыку квітнеючай.
Падам для прыкладу некалькі лічбаў. На сёння сярэдні амерыканец праводзіць на бюлетэні ці ў платным адпачынку 12 працоўных дзён за год. У Еўропе і ў Беларусі і хварэюць, і адпачываюць нашмат даўжэй — з месяц выходзіць. Вось з чаго ўзялося амерыканскае багацце! Большасць людзей тут жывуць вельмі сумленна і ашчадна.
Паводле сацыёлагаў, 73% амерыканцаў адносяць сябе да хрысціян. 36% амерыканцаў ходзяць у царкву раз на тыдзень або часцей. Хіба што, у Беларусі нашмат менш такіх людзей...
Я чуў такі выраз: не судзі чалавека, у якога бачыш парушынку ў воку. Ён грэшны, а ў тваім воку бервяно.
У Амерыцы шмат канфесій, і яны кіруюцца сваімі законамі, улада не забараняе. Але помнік Леніну тут адзін на ўсе штаты. Мо нейкі дурань і помнік сатане адзін недзе паставіў. Але я першы раз чую пра гэта.
У Беларусі шмат помнікаў Леніну. Столькі статуяў святых у Беларусі няма, колькі іх паставілі Леніну.
Беларусь была пад атэістычнай уладай — нішчылі цэрквы, епіскапаў і святароў у Сібір высылалі. Трэба, каб епіскапы нагадвалі людзям пра гэта, каб не паўтарылася трагедыя.
І хай уладыка Гурый будзе больш талентным. Хай на Амерыку не нагаворвае...

Кастусь Верабей, Фармінгдэйл (ЗША)

**P.S.** Як я па вайне прыехаў у Амерыку, тут было шмат бязбожнікаў з Беларусі. І вось адзін чалавек «савецкай ідэі» пытае, ці я пашчу. Я сказаў, што пашчу. «А ты яйка еў?» — «У пост еў». — «Дык ты курку з’еў, бо з яйка выйшла б курка!» Тут такіх атэістаў было шмат сярод эмігрантаў таксама...

Вясёлым пяром

# Дзякуй Бацьку!

Звычайная сталічная бальніца — найлепшая ў свеце: прадушаныя да падлогі матрацы, ложкі-развалюхі. Лёг — і ляжы, дзякуй, што паклалі не ў калідоры.
Лечаць, як умеюць: пасля платнага навучання не ўмеюць ніяк. Тыповы беларускі дзядуля звоніць жонцы ў Маладзечна:
—Ты мне нічога не вязі — тутака ўсяго досыць, дзякуй Бацьку, клапоцішча ён пра нас! Глядзі хату, гаспадарку. Як там кураняты, парсюкі? Бальнічная ежа як лекі: мала, але ж карысная. А калі захочаш прысмакаў, то на калідоры халадзільнік ёсць. Тамака ўсяго шмат: яйкі, курачкі, каўбасы розныя, кампоты, сокі, тваражкі, кумпячкі — бяры што хочаш. Дзякуй Бацьку!
І «браў», і «еў», і «дзякаваў», пакуль «добрыя» сястрычкі з «добрай» зарплатай не патлумачылі, што ён аб’ядаў хворых, для якіх прынеслі-прывезлі свае тое, што змаглі, што ад сябе адарвалі для хворага родзіча.

**Таццяна Карэліна, Мінск**

# Як выжыць?

Піша вам Гобзем Павел Уладзіміравіч, інвалід II групы, пражываю ў Чыгуначным раёне г. Віцебска. Праз хваробу я не ў стане весці хатнюю гаспадарку, і раней мне ў гэтым дапамагаў сацыяльны работнік з тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнай абароны Чыгуначнага раёна. Але з 1 лютага я не магу сабе гэтага дазволіць. Цэны выраслі ў 4 разы!
Існуе комплекснае абслугоўванне, у яго ўваходзіць прыборка кватэры, дастаўка прадуктаў і лекаў і яшчэ некалькі паслуг. Раней гэта каштавала 11 тыс. рублёў — цяпер 43 тысячы. Прыборка кватэры ўваходзіць у комплекснае абслугоўванне, але ёсць яшчэ дадатковыя паслугі (натуральна, платныя), дзе асобна пералічаныя:
— вільготная прыборка падлогі,
— прыбіранне смецця з дываноў венікам,
— прыбіранне смецця з дываноў пыласосам,
— прыбіранне пылу з прадметаў мэблі,
— выбіванне дываноў (не часцей чым 1 раз на 3 месяцы).
Узнікае пытанне: а што ж такое прыборка кватэры? Вось за кошт гэтага абслугоўванне падаражэла рэальна не ў 4, а ў 10 разоў! Калі раней я плаціў у месяц 11 тыс. рублёў за комплекснае абслугоўванне і 20 тыс. набягала за дадатковыя паслугі (разам 30 тыс.), то па новых расцэнках штомесяц давядзецца выкладваць 250–300 тыс. Хтосьці, атрымліваючы 10 млн., скажа: «Падумаеш — 300 тыс.». А ў мяне пенсія — 1.230.000 рублёў.
Гэта значыць, з хлеба, малака і бульбы мне давядзецца пераходзіць на хлеб і ваду.

**Павел Гобзем, Віцебск**

Просьба аб дапамозе

# Дапамажыце ў лячэнні Аляксандры

Чатырохгадовай дзяўчынцы Аляксандры Якушэнцы з курортнага пасёлка Нарач неабходна дапамога. Аляксандра хворая на атактычную форму дзіцячага цэрэбральнага паралічу.

Бацькі не губляюць надзею вылечыць дачку. Напрыканцы 2013 года Аляксандра прайшла курс тэрапіі ў міжнароднай клініцы ўзнаўленчага лячэння ва ўкраінскім Трускаўцы. У гэтай клініцы пацыентаў з ДЦП лечаць паводле методыкі вядомага ўкраінскага неўролага Уладзіміра Казяўкіна.



«У выніку самаадчуванне Аляксандры значна палепшылася, яна стала больш актыўнай і ўважлівай, павялічыўся аб’ём пасіўных і актыўных рухаў, сама спрабуе ўстаць», — кажа маці Аляксандры Наталля Мацкевіч.

12 тысячаў еўра, патрэбных на лячэнне, бацькам Сашы дапамог сабраць дабрачынны фонд «Шанс».

Цяпер сям'і Аляксандры патрабуецца 3 712 еўра на новы этап рэабілітацыі, які запланаваны на 16 чэрвеня.

«Мы вычарпалі свае фінансавыя магчымасці. Таксама мы не можам зноў звярнуцца ў дабрачынны фонд, бо ўжо атрымалі ад іх матэрыяльную дапамогу», — паведамляе маці Аляксандры.

Як паведамляецца на старонцы Аляксандры «Укантакце», па стане на 21 сакавіка было сабрана 1 368 еўра з неабходных 3 712.

Дапамагчы Аляксандры можна, пералічыўшы грошы на дабрачынныя рахункі.

Рэквізіты дабрачыннага рахунку ў цэнтры банкаўскіх паслуг № 619 ААТ «ААБ «Беларусбанк»: г. Мядзел, вул. Набярэжная, д. 4, УНП 600198997, МФО 153001769.

Беларускія рублі: транзітны рахунак № 3819382190343 на дабрачынны рахунак № 000009 у цэнтры банкаўскіх паслуг № 619, бестэрміновы.

Расійскія рублі: транзітны рахунак № 3819382108410 на дабрачынны рахунак № 000005 у цэнтры банкаўскіх паслуг № 619, бестэрміновы.

Даляры ЗША: транзітны рахунак № 3819382108410 на дабрачынны рахунак № 000025 у цэнтры банкаўскіх паслуг № 619, бестэрміновы.

Еўра: транзітны рахунак № 3819382108410 на дабрачынны рахунак № 000002 у цэнтры банкаўскіх паслуг № 619, бестэрміновы.

Назначэнне плацяжу: Мацкевіч Наталлі Рыгораўне, на лячэнне і рэабілітацыю дачкі Якушэнка Аляксандры Паўлаўны.

Адрас для паштовага грашовага перавода:

222395, Рэспубліка Беларусь, Мінская вобласць, Мядзельскі раён, к. п. Нарач, вул. Кастрычніцкая, д. 13, кв. 28, Мацкевіч Наталлі Рыгораўне. Назначэнне плацяжу: на лячэнне і рэабілітацыю дзіцяці Якушэнка Аляксандры Паўлаўны згодна з выпісаным эпікрызам № 21777/573 і пасведчаннем серыі 09 № 0431282.

Картка Беларусбанка 4255200037125143 да 11. 17; картрахунак 637000489.

Звязацца з маці Аляксандры Наталляй Мацкевіч можна па тэлефоне 8-017-97-47-0-84 (хатні) ці (029) 256-75-32 (МТС)

**Кірыла Хілько**



**«Хай бы гэты хлопец выйшаў з двума сцягамі на 3 Ліпеня, а не на 25 Сакавіка»**

Мінчук Руслан Верамей на Дзень Волі 25 сакавіка выйшаў з двума сцягамі: бел-чырвона-белым і чырвона-зялёным адначасова. Гэта выклікала вялікія спрэчкі — з ягоным удзелам — на сайце NN.BY.
Меркаванне каментатара Васіля: «Пускай этот парнишка выходит на 3 июля с таким подбором флагов [чырвона-зялёным і бел-чырвона-белым адначасова] и там, на параде, нацию объединяет!! Посмотрим, дадут ли ему высказать свою точку зрение по БТ? Вот это был бы поступок, респект и уважуха! А так он мелкий провокатор.
Верамей Руслан, давай на 3 июля приходи на парад с двумя флагами, расскажи там свою точку зрения! А «Наша Ніва» должна снять про это сюжет! Тогда эта дискуссия, которую тут развили, обретёт хоть каплю смысла», — мяркуе Васіль.

Вершаваным радком

## З нагоды Маршу чырвонакашульнікаў у Маскве

*Да падзей ва Украіне*

Ў сарочцы чырвонай Расея —
Зашпілены гузікі ўсе,
І выйшла яна сеяць,
І жаць будуць гэта ўсе.

Палошча сцягі вецер,
І лязгае зброя зноў,
І з «ворагам-братам» дзеці
Сыходзяць у мроі сноў.

І бэсцяць, і хлусяць без меры,
(і п’ецца з брудных крыніц),
І ігнаруюцца дзверы,
І словы святых зараніц.

Шалее без сэрца і Бога
Паўсталае з небыцця,
І кліча крывая дарога —
Замест шанавання жыцця.

Ў чырвоным цяпер ты, Расея,
І крочыш ад раніцы ў змрок.
Ты «зубы дракона» сееш —
Не вывучыла урок.

**Віктар Івашка, Гродна**

## Паштовая скрынка

**Ганне М. з Койданава.** Наконт ушанавання памяці Адольфа Янушкевіча — можа быць, варта пакуль рабіць тое, што не патрабуе рашэнняў дзяржаўных органаў або тое, на што дзяржорганам не трэба траціцца? Напрыклад, паставіць памятны камень і крыж з шыльдай. Грошы на такое можна назбіраць нават сваёй сям’ёй. Інакш можна спеoriginalжывацца, што нічога не робіцца. Калі не дабіцца чагосьці ад чыноўнікаў, варта рабіць самім тое, што па сілах зрабіць сваёй сям’ёй.

**Уладзіміру С. з Віцебска.** У вас вершы ў цікавым жанры, але мы літаратуру публікуем толькі па-беларуску.

# Ад Богшы да Шагала

**У Нацыянальным мастацкім музеі пачалася ўнікальная выстава «10 стагоддзяў беларускага мастацтва».**



«Цяжка ў фармаце адной выставы паказаць ажно дзесяць стагоддзяў, аднак у выніку нам удалося: усяго тут 500 экспанатаў», — тлумачаць супрацоўнікі музея. Адзін з самых маштабных мастацкіх праектаў апошніх гадоў уражвае — сабрана ўсё найлепшае з музеяў Беларусі. Да таго ж «Белгазпрамбанк» падзяліўся карцінамі з уласнай калекцыі, а гэта творы Шагала, Ваньковіча і Суціна.

Менавіта суцінаўская «Ева» і стала галоўнай падзеяй: яна выстаўляецца ўпершыню, дый шмат каго з наведнікаў прывабліває хаця б тое, што карціна каштуе мільён даляраў. Пышная залатая рама «Евы» нібы падсвечвае надзвычай кранальны і спакойны па колерах партрэт.

Усе цікавосткі выставы не злічыш: тут і Статут 1588 года, і «Вялікае мастацтва артылерыі» Семяновіча (абедзве кнігі выкупалі ўсёй грамадой у калекцыянераў), і старадаўнія жырандолі, і артэфакты з маёнтка Касцюшкі, і кінаплакаты, але ў першую чаргу, канечне, карціны.

Ад старадаўніх ікон і зменшанай копіі Крыжа Еўфрасінні Полацкай (ад фатографаў яго старанна ахоўваў дырэктар музея Уладзімір Пракапцоў: «На выяве крыж мовжа сказіцца, а гэта святыня») да плакатаў Цэслера і Войчанкі. Ад ананімных партрэтаў эпохі барока да супрэматычных карцін Надзеі Хадасевіч-Лежэ. Ад мастакоў Заходняй Беларусі, сярод якіх яскрава вылучаецца касмалагічны Язэп Драздовіч, да сацрэалізму і карцін Савіцкага.

**«Наша сінявокая бел-чырвона-белая Беларусь!»**

Нечаканай для прысутных на адкрыцці (туды пускалі па запрашальніках) стала прамова кіраўніка «Белгазпромбанка» Віктара Бабарыкі: «Для нас унікальнасць гэтай выставы менавіта ў тым, што ў нас ёсць тое [культура Беларусі], дзеля чаго мы, не звяртаючы ўвагі на адрозненні, аддамо ўсё найлепшае, што ў нас ёсць. Пакуль у Беларусі будзе ідэя і думка, якая можа аб`яднаць нас, такіх розных, з розным мастацкім густам, палітычнымі прыхільнасцямі, векам і адносінамі, датуль была, ёсць і будзе наша бел-чырвона-белая сінявокая Беларусь. Жыве Беларусь!»

БелаПАН

На выставе можна набыць каталог — у электронным выглядзе на флэшцы альбо фаліянт на тры кілаграмы.

Выстава працягнецца да 10 ліпеня. Працуе экспазіцыя штодня ад 11-й. Уваход каштуе 30 тысяч рублёў.

**Юрась Ускоў**

# Нявінныя і грэшныя

**У пракат выйшаў эпічны «Ной» Дарэна Аранофскі.**

На зямлі пачынаецца сусветны патоп. Тысячы людзей спрабуюць уратавацца ў каўчэгу. Але анёлы, якіх Бог калісьці пакараў і адправіў на зямлю ў выглядзе каменных страшных Вартаўнікоў, забіваюць кожнага. Ніхто, акрамя Ноя і яго сям'і, не мае права на выратаванне.

Такую версію біблейскіх падзей прадставіў рэжысёр Дарэн Аранофскі, чые фільмы неаднаразова перамагалі на міжнародных фестывалях. У 2008 яго стужка «Рэстлер» узяла венецыянскага «Залатога льва». «Чорны лебедзь» (2010) з бюджэтам $13 млн сабраў у пракаце $ 320 млн. А Наталі Портман, якая сыграла галоўную ролю, атрымала за яе «Оскар». Элітарны рэжысёр, аўтар шэдэўральнай стужкі «Рэквіем па мары», які можа забяспечыць касу — што яшчэ трэба для поспеху?

Аранофскі прызнаваўся, што асоба Ноя захапіла яго, калі рэжысёру было трынаццаць гадоў. Фільм каштаваў $125 млн. Летам 2012 года пачаліся здымкі, якія пераважна адбываліся ў Ісландыі. Асобныя эпізоды здымаліся ў Амерыцы. Сам каўчэг быў пабудаваны ў Нацыянальным гістарычным парку *Planting Fields Arboretum* (Нью-Ёрк).



Галоўнае ў фільме — не падзеі сусветнага патопу (яго сціплы паказ якраз займае мінімум часу), а пытанне, хто вырашае лёсы людзей і як інтэрпрэтаваць Божыя словы. У Сіма, сына Ноя, і Ілы (дзяўчынку-сірату, якую сям'я галоўнага героя падабрала ў дзяцінстве, іграе Эма Уотсан — Герміёна з фільмаў пра Гары Потэра) павінна нарадзіцца дзіця. Калі гэта будзе хлопчык, ён застанецца жывым і стане апошнім чалавекам на зямлі — вырашае Ной. Калі гэта будзе дзяўчынка — Ной хоча забіць яе.

Вытокі такіх поглядаў — у дзяцінстве героя, ролю якога выконвае Расэл Кроў. Пасля забойства бацькі, якое адбываецца на вачах у Ноя, ён застаецца ці не адзіным спадчыннікам Сіфа (малодшага, праведнага сына Адама). Астатнія людзі паходзяць ад іншага сына Адама — забойцы Каіна. Усе яны грэшныя, а таму, на думку Ноя, асуджаныя Богам за свае грахі і не маюць права на выратаванне. Нездарма перад пачаткам патопу галоўны герой наўмысна не дапамагае Наэль, каханай свайго сына Хама, і пакідае яе на верную смерць. Ной разумее рашэнне Бога наступным чынам: той задумаў патоп, каб новы свет засялілі толькі бязгрэшныя істоты (жывёлы, птушкі, рыбы). Місія героя — дапамагчы іх выратаваць.

Перад здымкамі Аранофскі казаў, што разумее Ноя як складаную асобу, у якой пасля патопу з'яўляецца пачуццё віны чалавека, які выжыў. Але ў фільме і смерць Наэль, і забойствы ўсіх астатніх людзей Вартаўнікамі пакідаюць Ноя абыякавым. Ён выконвае задачу, ускладзеную на яго Богам так, як яе разумее, і рухаецца да мэты з маніякальнай упартасцю. І толькі нараджэнне двух дзяўчатдвайнятак прымушае героя Расэла Кроу задумацца, ці перайсці апошнюю мяжу.

З усіх фільмаў Аранофскі «Ной» найболыш падыходзіць пад катэгорыю «галівудскае кіно». У фільме шмат спецэфектаў (зярнятка, падараванае Мафусаілам, дзядулем Ноя, у імгненне пераўтварае пустыню ў лес) і камп'ютарнай графікі (усе жывёлы былі намаляваныя на камп'ютары). Але галоўнае — у тыповых сюжэтных паваротах і вобразах. Напрыклад, па законе жанра ў такім фільме абавязкова мае быць любоўны трохкутнік. Таму паміж сынамі Ноя, «станоўчым» Сімам і «адмоўным» Хамам, узнікае суперніцтва за Ілу. Дзеля стварэння сюжэтнай напругі трэба, каб быў адмоўны герой, супрацьстаянне якога са станоўчым будзе праходзіць праз увесь сюжэт. Так у фільме з'яўляецца Тубал-Каін, спадчыннік Каіна. У маладосці ён забівае бацьку Ноя. А праз гады адзіны з людзей (акрамя сям'і Ноя) трапляе на каўчэг...

«Усё так і было», — калісьці сказаў Папа Ян Павел II пра фільм «Жарсці Хрыстовы». Новы Папа Францыск на сустрэчы з Расэлам Кроу дабраславіў «Ноя». Так што чакайма «патопу» ў кінатэатрах ва ўсім свеце.

**Мікіта Капкоў**

# Дубавец і Глобус трапілі, а Гапееў — не

Журы выбрала 12 кніг, якія працягнуць змаганне за прэмію Гедройца. Туды ўвайшлі **«Шклатара»** Артура Клінава, **«Дараванне. Прощение. Vergebung»** Алены Брава, **«Ночы на Плябанскіх млынах»** Людмілы Рублеўскай, **«Багун»** Вінцэся Мудрова, **«Errata»** Сяргея Дубаўца, **«Музы і свінні»** Уладзіслава Ахроменкі, **«Хвілінка»** Ігара Бабкова, **«Разбітае сэрца Вітаўта»** Сяргея Верацілы, **«Казкі пра дарослых»** Адама Глобуса, **«Зкімбы-зымбы»** Аляксандра Лукашука, **«Сарочае радыё»** Кацярыны Оаро, **«Смерць лесбіянкі»** Наталкі Харытанюк.

З імаверных фаварытаў у спіс не трапіў раман Валера Гапеева **«Праклён»**. На наступным этапе журы сфармуе шорт-ліст з 6 кніг. Ён будзе абвешчаны да 15 мая.

Літаратурная прэмія імя Ежы Гедройца была заснаваная ў 2011 і штогод прысуджаецца за найлепшую кнігу прозы па-беларуску. Узнагарода пераможцу складае каля 100 млн рублёў.

**МК**

## Сцісла

**«Ляпіс Трубяцкі» дасць у Варшаве бясплатны канцэрт**

Бясплатны канцэрт «Салідарныя з Беларуссю» пройдзе 11 красавіка ў Кракаўскім прадмесці Варшавы. Пачатак а 19-й. Сёлета на мерапрыемстве заяўленыя выступы культавага польскага гурту *Maleo Reggae Rockers*, украінцаў *Kozak System* і двух беларускіх гуртоў — *Amaroka* і «Ляпіс Трубяцкі». Канцэрт-акцыя «Салідарныя з Беларуссю» праводзіцца ў Варшаве ад 2006 з мэтай пазнаёміць палякаў з актуальнай беларускай культурай.

**«Халоднае сэрца» — самы касавы мультфільм у гісторыі**

Стужка рэжысёраў Крыса Бака і Джэніфер Лі стала самым касавым мультфільмам за ўсю гісторыю. Створаная па матывах казкі Ганса Хрысціяна Андэрсана «Снежная каралева», яна сабрала ў пракаце $ 1,07 млрд і цяпер уваходзіць у топ-10 самых касавых фільмаў у свеце.

**«Тэатр Ч» паставіць «Смутак Сатаны»**

Прыватны калектыў, які летась паставіў «Дзяды», культавую паэму Адама Міцкевіча, рыхтуе новую прэм'еру — спектакль «Смутак Сатаны» паводле містычнага рамана англійскай пісьменніцы Марыі Карэлі. Спецыяльна для пастаноўкі яго пераклалі на беларускую мову. Літоўскі рэжысёр Рамуне Кудзманайтэ падкрэслівае, што пастаноўка будзе не пра Літву, не пра Расію, а пра Беларусь.

**МК**

# Гісторыя Беларусі.
## Князь Глеб і ўзвышэнне Менска

Піша **Алег Дзярновіч**.

У папярэдняй частцы «Гісторыі Беларусі» вялася гаворка пра тое, як нашыя землі ўступалі ў XII ст. і пра ўладаранне князя Барыса, нашчадка Усяслава Полацкага. Гэтым жа часам адбывалася яшчэ адна вельмі важная змена ў палітыкаадміністрацыйным ладзе Полацкай зямлі — у канцы XI—XII ст., за кароткі час, структура гэтай дзяржавы становіцца менш гамагеннай. З'яўляюцца Менскае і Ізяслаўскае ўдзельныя княствы, пазней Друцкае, Віцебскае, Лагойскае. Герой гэтых падзеяў — родапачынальнік менскай галіны полацкіх князёў Глеб Усяславіч.


Верагодная пячатка Глеба Менскага.



Сучасная памятная манета.

### Ворагі-сваякі

Пачатак «кар'еры» Глеба — традыцыйны. У 1090 г. ён пабраўся шлюбам з дачкой князя Яраполка Ізяславіча Анастасіяй. Яе дзед — той самы князь Ізяслаў Кіеўскі, які пасадзіў у поруб Усяслава Полацкага. Дый сам Яраполк Ізяславіч перамог Усяслава ў 1071 пад нелакалізаваным гісторыкамі Галацічаскам.

Хутка пасля таго, у 1073, Яраполк Ізяславіч мусіў пакінуць кіеўскі пасад і бегчы ад кіяўлянаў разам з бацькам. Гэта былі ўжо не першыя ўцёкі князя Ізяслава — у 1068 у выніку народнага паўстання на яго пасад быў узведзены Усяслаў Полацкі. Дзіўным чынам перакрыжоўваецца гісторыя двух родаў і перыядычныя закалоты ў Кіеве.

Ізяслаў і Яраполк бягуць на Захад. Падтрымкі ў Польшчы яны не атрымалі. Як і ў Германіі: кароль Генрых IV быў заклапочаны ўнутранымі справамі — ваяваў з саксамі. У той перыяд адбылася важная для нашага сюжэта падзея — каля 1075 Яраполк пабраўся шлюбам з Кунігундай, дачкой майсенскага маркграфа Атона фон Арламюндэ. Іх дачка Анастасія стане жонкай Глеба Менскага.

Яраполк скіраваўся ў Рым да папы Рыгора VII. Рымскі пантыфік знаходзіўся на вяршыні палітычнай магутнасці. Літаральна праз два гады, у 1077, адбудзецца «Хаджэнне ў Каносу», калі той самы імператар Генрых IV з'явіцца на паклон да Рыгора VII і будзе прыніжана прасіць зняць адлучэнне ад царквы. А ў 1075 Рыгор VII абвясціў выгнаных рускіх князёў сваімі васаламі. Мяркуецца, што Яраполк прыняў каталіцтва пад іменем Пятра.

Сведчанні пра той візіт захаваліся ў кніжным помніку, што вядомы як Кодэкс Гертруды або Трырскі Псалтыр. Ён быў створаны ў канцы X ст., а ў 1043, як частка пасагу дачкі польскага караля Мешка II Гертруды, трапіў у Тураў — польская прынцэса стала жонкай тагачаснага тураўскага князя Ізяслава Яраславіча. У шлюбе Ізяслава і Гертруды і нарадзіўся Яраполк.

Кодэкс цягам жыцця князёў дапаўняўся. Калі ў 1076 Ізяслаў і Яраполк здолелі вярнуцца ў Кіеў, запісы пра іх рымскую выправу таксама трапілі ў кнігу. На адной з шасці новых мініяцюр мы бачым і партрэт Яраполка і яго жонкі Кунігунды. Увогуле, мініяцюры Кодэкса Гертруды застаюцца ўнікальным ілюстрацыйным матэрыялам для вывучэння адзежы элітаў XI ст.

Калі сочыш за імклівымі перамяшчэннямі князёў і іх дружыны, разумееш, наколькі стэрэатыпы застылага і маларухомага Сярэднявечча неадэкватныя. Эліты, святары, манахі, купцы, гараджане пастаянна перамяшчаліся, каб рэалізоўваць задачы свайго жыцця. Куды менш часу яны праводзілі ва ўласным доме. Дый ці быў такі дом у князёў?

Таксама дынастычныя і міжканфесійныя шлюбы сведчаць пра тое, што да мангольскага наступу Кіеўская Русь была арганічна ўключаная ў прастору хрысціянскай Еўропы.

### Калі ўзнікла Менскае княства?

Летапісы паведамляюць, што князі надзялялі ўдзеламі сыноў яшчэ пры жыцці. Нагодай станавіліся шлюб ці дасягненне княжычамі пэўнага веку. Нам вядома пра шлюб Глеба Усяславіча (першага прыгаданага ў крыніцах менскага князя) з Анастасіяй, дачкой Яраполка Ізяславіча. Яраполк загінуў у 1086, а заручыны маглі адбыцца ў 1085, бо ў гэты год былі заключаны саюзныя адносіны паміж бацькамі маладых. Яраполк, валынскі князь, знаходзіўся ў вострым канфлікце з галічанскімі князямі Расціслававічамі ды шукаў падтрымкі ў Польшчы і Полацка. Так, неадназова ў гісторыі, былыя ворагі рабіліся саюзнікамі і сваякамі.

Эпізод са шлюбам важны тым, што ад 1085 мы можам казаць пра ўзнікненне Менска як самастойнай адміністрацыйнай адзінкі, якая пасля сконy полацкага сюзерэна Усяслава ў 1101 ператвараецца ва ўдзельнае княства Полацкай зямлі. Назва «ўдзел» паходзіць ад слова «дзяліць» — маецца на ўвазе падзел значных тэрытарыяльных утварэнняў на драбнейшыя. Удзелы маглі ўзнікнуць толькі ва ўмовах патрыманіяльных манархій, калі дзяржава ўспрымаецца як уласнасць роду, а манарх ёсць уласнікам усіх земляў. Гэта старажытнагерманская форма дзяржаўнай улады, запачаткаваная ў Франкскім каралеўстве пры дынастыі Меравінгаў. Удзелы маюць значную ступень самастойнасці, але фармальна прызнаюць вяршэнства князя ўсёй зямлі — у нашым выпадку, Полацкай.

### Амбітны Глеб

Пасля ўмацавання ў Менску Глеб увайшоў у канфлікт са сваімі братамі. Мяркуецца, што ён пазбавіў ізяслаўскага (заслаўскага) удзелу Давыда Усяславіча (сяр. 1050-х — пасля 1130), а таксама Рамана Усяславіча (1050-я — 1114/1116).

З'яўленне новага цэнтра сілы не засталося незаўважным. У 1105 (ці 1104) адбылася аб'яднаная выправа паўднёварускіх князёў супраць Глеба: кіеўскі князь Святаполк накіраваў свайго ваяводу Пуцяту Вышаціча, Уладзімір Манамах (тады яшчэ пераяслаўскі) — сына Яраполка, чарнігаўскі князь Алег Святаславіч прыйшоў сам ды прывёў з сабой выгнанага Давыда. Але напад быў адбіты. Даследчыкі адзначаюць, што кіеўскі князь Святаполк не выяўляў асаблівага імпэту.

Глеб пераходзіць у наступ — ён імкнуўся пашырыць свае ўладанні ў напрамку Дняпра, што адкрывала перспектывы сувязяў са знешнім светам. А гэта прыводзіла да сутыкнення з Уладзімірам Манамахам, які кантраляваў Смаленскую зямлю і прэтэндаваў на тэрыторыі, што ўваходзілі ў сферу ўплыву Полацкага княства.

Святаполк кіеўскі таксама асцерагаўся ўмацавання Манамаха — тут яго інтарэсы супадалі з інтарэсамі полацкіх князёў.

Полаччына ўмацоўвае свае ўсходнія тэрыторыі — у пачатку XII ст. на правым беразе Дняпра ўзводзіцца замак у Оршы. Адначасова, на левым беразе будуецца замак у Копысі, які становіцца заходнім фарпостам Смаленскага княства. У той час менавіта Уладзімір Манамах стаў смаленскім князем і Копысь мог умацоўваць менавіта ён. Неўзабаве гэтыя дняпроўскія фарпосты апынуліся пад уладай Глеба Менскага. Стольны горад Менскага княства знаходзіўся на самым захадзе гэтага новага палітычнага ўтварэння. Вельмі нечаканым, паводле пазнейшых аўтараў, выглядае тут статус Друцка.

Гісторык XIX ст. Тэадор Нарбут у сваё «Гісторыі літоўскага народа» ацэньваў Глеба Менскага як чалавека «неспакойнага характару» і сцвярджаў, што за гэтым князем Менская зямля стала цэнтрам нявольніцкага гандлю, а ў Друцку знаходзіўся галоўны рынак жывога тавару. Нарбут не зрабіў спасылкі на крыніцы інфармацыі. Таксама на яго адрас гучыць багата дакораў у вельмі вольным абыходжанні з крыніцамі. Тым не менш, імкненне Глеба да выхаду на важныя гандлёвыя артэрыі можа ўскосна пацвердзіць гэтую версію. Што яшчэ ў тую эпоху магло прыносіць большыя прыбыткі, чым паспяховая вайсковая экспедыцыя ці гандаль нявольнікамі?

### Паўднёвы напрамак

У 1113 памёр кіеўскі князь Святаполк. Пры ягоным жыцці атачэнне князя злоўжывала ліхвярствам і спекулявала соллю. Смерць уладара стала сігналам да паўстання ў Кіеве — люд разграміў двары адміністрацыі, у тым ліку знаёмага нам Пуцяты Вышаціча, а таксама дамы ліхвяроў. Кіеўскія вярхі ў паніцы запрасілі на пасад Уладзіміра Манамаха. Ён жорстка задушыў паўстанне, але таксама ўнёс у рускае права некаторыя нормы, якія палепшылі становішча нізоў («Статут Уладзіміра Манамаха»): былі абмежаваныя прыбыткі ліхвяроў, вызначаны ўмовы закабалення, палягчалася становішча даўжнікоў.

Стаўшы кіеўскім князем у 60-гадовым веку, Манамах цвёрдай рукой і з дапамогаю сваіх сыноў здолеў кантраляваць 3/4 тэрыторыі шматковай Кіеўскай Русі. Уладаранне Манамаха стала апошнім перыядам узмацнення гэтага дзяржаўнага аб'яднання. Пад кантролем князя знаходзіўся таксама Тураў, які перайшоў да Уладзіміра Манамаха як кіеўская воласць.

Гэтыя вектары — экспансіянізм Глеба Менскага і імкненне Уладзіміра Манамаха да ўсталявання кантролю ва Усходняй Еўропе — непазбежна павінны былі прывесці да канфлікту. У 1116 Глеб нападае на Слуцк, які ўваходзіў у тураўскія ўладанні кіеўскага князя. У адказ Манамах выправіў на Менскае княства войскі сыноў з трох бакоў. Смаленскі князь Вячаслаў Уладзіміравіч захапіў Оршу і Копысь; аб'яднаныя сілы Давыда Уладзіміравіча і пераяслаўскага князя Яраполка Уладзіміравіча ўзялі «на шчыт» Друцк, а яго жыхароў вывелі ў Пераяслаўскую зямлю, пабудаваўшы новы горад Жэлні. Сам Уладзімір Манамах скіраваўся да Менску і ўзяў горад у аблогу. Тое, што кіеўскае войска не здолела з бою авалодаць Менскам, сведчыць пра магутнасць умацаванняў і значнасць вайсковага патэнцыялу горада.

Аблога трывала два месяцы. Пасля, паводле кіеўскага летапісца, «пачаў прасіць Глеб ва Уладзіміра». Глеб з дзецьмі і дружынай выйшаў з менскага дзядзінца «і абяцаў ва ўсім слухацца Уладзіміра». Манамах прыняў капітуляцыю, ля валоў дзядзінца адбылася цырымонія перадачы Менска Глебу — цяпер менскаму князю ягоны ўдзел перадаваў князь кіеўскі.

Пагром 1116-га ліквідаваў дасягненні Глеба Менскага ў Падняпроўі, карысныя для ўсёй Полацкай зямлі. У 1119 Глеб Менскі ўжо з сіламі Полацка здзейсніў рэйд ва ўладанні сыноў Манамаха — у Смаленскую і Наўгародскую землі. Гэтым разам кіеўскі князь не збіраўся ісці на саступкі — ён наказаў свайму сыну Мсціславу спустошыць Менск і не адпускаць Глеба. Менскі князь быў паланёны, адвезены ў Кіеў і там неўзабаве, 13 верасня 1119, памёр.

### Глеб Менскі і Кіева-Пячэрская лаўра

Глеб Усяславіч быў пахаваны ў Кіеўска-Пячэрскай лаўры, дакладней — ва Успенскім саборы, у самым шанаваным месцы: побач з каменным саркафагам заснавальніка Лаўры св. Феадосія Пячэрскага. Праз 40 гадоў тут жа было пакладзена цела ўдавы Глеба, княгіні Анастасіі, якая сканала ў 1158, на 84-м годзе жыцця. Княгіня Анастасія пакінула святыні «5 сёл з чэлядзю».

Украінскія археолагі мяркуюць, што сярод парэшткаў 17 чалавек, знойдзеных у 1988 у паўднёвай частцы Успенскага сабору, захаваўся і прах Глеба Усяславіча. Але стасункі Глеба Менскага з Лаўрай маюць даўнейшую гісторыю. Ён багата фундаваў яе пры жыцці: фінансаваў будаўніцтва мураванай трапезнай (пры трапезнай дзейнічала царква, галасніку якой былі аздобленыя «двузубцам з крыжыкам», княскім знакам Глеба). Таксама Глеб ахвяраваў на манастыр 600 грыўняў срэбра і 50 грыўняў золата. Гэта сведчыць і пра значныя грашовыя рэсурсы, якімі валодаў князь.

Так скончыўся перыяд часовага ўзвышэння Менска. Сціплыя гістарычныя крыніцы не даюць нам магчымасці адсачыць усе перыпетыі змагання Глеба за гегемонію яго княства над Усяслававай спадчынай. Мы вельмі далёкія ад таго, каб праецыраваць палітычную актыўнасць Менска XII ст. на ягоную сталічную ролю XX ст. Але, стоячы на пазіцыях пачатку XII ст., трэба прызнаць, што ў рэгіёне з'явіўся новы канкурэнцыйны цэнтр сілы.

# Лёс сям’і пана падлоўчага

**Ядвіся з трылогіі «На ростанях»: што з ёй стала?**

*«Тутэйшае жыхарства лічыла яго палякам, сам жа пан падлоўчы з гэтым не згаджаўся. «Я — ліцвін», — з нейкаю гордасцю зазначаў пан падлоўчы і сваю належнасць да ліцвіной даводзіў, паміж іншым, і тым, што яго прозвішча — Баранкевіч — мела канчатак на «іч», тады як чыста польскія прозвішчы канчаюцца на «скі»: Жулаўскі, Дамброўскі, Галонскі».*

Гэтая «дэкларацыя ліцвінскасці» ўрэзалася мне ў памяць яшчэ ў сярэдняй школе, дзе трылогію Якуба Коласа «На ростанях» мы падрабязна разбіралі на ўроках беларускай літаратуры. Урок за ўрокам мы сачылі за жыццёвым шляхам маладога настаўніка Лабановіча, які прыехаў вучыць дзяцей палескай вёскі Цельшына, абмяркоўвалі вобразы старожкі бабкі Мар’і, настаўніка Саханюка, падлоўчага Баранкевіча і ягоных дачок Габрысі і Ядвісі. Памятаю, колькі юнацкіх эмоцый выклікала гісторыя кахання маладога Лабановіча да «лепшай, прыгажэйшай казкі Палесся» — да Ядвісі.

З часам я даведаўся, што прабразам Лабановіча быў сам пісьменнік, а Цельшына — гэта насамрэч Люсіна, што ў сённяшнім Ганцавіцкім раёне. Прататыпам Ядвісі Баранкевіч была Ядвіга Баранцэвіч. Беларускі паэт Сяргей Новік-Пяюн пісаў, што Ядвіга жыла ў 1930-я ў Слоніме, а пасля з’ехала ў Польшчу. Новік-Пяюн, спасылаючыся на Гальяша Леўчыка, сцвярджаў, нібы Ядвіга нават друкавала вершы ў «Нашай Ніве» пад псеўданімам Юстына...

Нядаўна, дзякуючы выпадковым супадзенням, мне ўдалося адшукаць нашчадкаў падлоўчага Баранцэвіча. Іх аповеды, пісьмовыя ўспаміны Габрыэлі Баранцэвіч, сястры Ядвігі, разам з архіўнымі звесткамі дазволілі больш даведацца пра сям’ю пана падлоўчага і яе лёс.

* * *

*«Пан падлоўчы быў родам дзесь з Гарадзеншчыны і паходзіў, як ён казаў сам, са старога дваранскага роду».*

11 лютага 1856 у маёнтку Міронім Слонімскага павета ў сям’і Яна-Станіслава Баранцэвіча і Францішкі з Камароўскіх нарадзіліся двайняты. Дзяўчынку назвалі Філаменай, хлопчыка — Ігнацыем. Пра маці двайнятаў вядома няшмат. Паводле ўспамінаў унучкі, бабуля Францішка мела добрую адукацыю, ведала некалькі моваў, скончыла музычную школу ў Вільні. Нашчадкі Францішкі перакананыя, што Камароўскія мелі графскі тытул. Калі гэта так, то паходзіла яна з тых жа Камароўскіх, што і сённяшні прэзідэнт Польшчы.

Баранцэвічы графскага тытула не мелі, але род гэты сапраўды быў старым. Напаўлегендарныя звесткі пра пачынальнікаў адносяцца да пачатку XVI ст.

Міронім, або па-іншаму Ваўчовыя, — прататып таго маёнтка, куды «да сваякоў на Гарадзеншчыну» ездзіла коласаўская Ядвіся. Ян-Станіслаў, бацька Ігнацыя, памёр рана, і Францішка пераехала з дзецьмі ў маёнтак Устронь, які належаў ёй яшчэ да шлюбу. Ва Устроні прайшлі маладыя гады Ігнацыя, пры гэтым ён і надалей часта бываў у Міроніме: там жыла сям’я роднага дзядзькі Тэафіла.

У сярэдзіне 1880-х ва Устроні адгулялі вяселле — Ігнацый ажаніўся з Марыяй Немчыновіч. У 1888 у сям’і нарадзілася першая дачка Ядвіга. Праз два гады — Габрыэля, пазней — яшчэ чацвёра дзяцей: дзяўчынкі Вацлава і Зося, якія памерлі маленькімі, і сыны Ян і Чэслаў. У 1895 Баранцэвічы прадалі Устронь і пераехалі ў Люсіна, дзе Ігнацый паступіў на службу ў лясную гаспадарку графа Патоцкага. Праз два гады пасля пераезду жонка памерла, пакінуўшы падлоўчага з чатырма дзецьмі. Выхоўваць іх Ігнацыю дапамагала маці — яна зноў пасялілася ў Міроніме і забрала туды старэйшых унучак. У 1900 Ігнацый ажаніўся другі раз, і дочкі вярнуліся ў Люсіна. Яшчэ праз два гады працаваць у Люсіна прыехаў малады настаўнік рускай мовы Канстанцін Міцкевіч...

* * *

Другая частка трылогіі пачынаецца з таго, як настаўнік Лабановіч вырашае з’ехаць. Пачуцці да Ядвісі ды яе нечаканы ад’езд з вёскі — галоўная прычына рашэння настаўніка. «Яна была, і там было жыццё, там жыла радасць, нейкая паўната гэтага маладога жыцця. А цяпер яе няма там — і ўсё зблекла, як бы замерла...» — так апісваў Колас думкі Лабановіча ў той момант.

Што ж сталася з Ядвісяй і яе сям’ёй пасля?

У 1906 Ядвіся выйшла замуж за Канстанціна Бахенскага, ляснічага ў графа Патоцкага. У сям’і нарадзілася трое дзяцей: дочкі Зося, Аліна і сын Багдан. Крысціна Грыневіч, унучка Ядвігі, расказвала, што яе дзядуля з бабуляй жылі ў леснічоўцы Тамашоўка, але дзе дакладна была тая мясцовасць, 82-гадовая спадарыня Крысціна не памятала.

Габрыся таксама пакінула Люсіна, уладкаваўшыся на службу ў маёнтак Вейна каля Магілёва. Адпрацаваўшы год, яна вярнулася дадому і заклала ўласную пасеку. У 1913 выйшла замуж за ляснічага Юзафа Баевіча. Праз год пачалася вайна, і Баевіча як аўстрыйскага падданага выслалі ў Сібір. Габрыэля, застаўшыся з маленькім сынам Тадэвушам на руках, паехала да сястры. Калі праз год мужа вызвалілі, Габрыэля паехала да яго ў Расію. Пасля некалькіх пераездаў сям’я пасялілася на Украіне, дзе на свет прыйшлі дочкі Юля і Галіна. Муж уладкаваўся ляснічым, і жыццё пакрысе наладзілася.

Спакой парушылі рэвалюцыя і чарговая вайна. У 1919 бальшавікі забілі мужа Габрыэлі, яе саму чакаў тыф, расстанне з дзецьмі, голад і блуканні. У 1920 Кіеўшчыну занялі палякі, з іх дапамогай Габрыэлі з дзецьмі ўдалося дабрацца да Баранавічаў і ў рэшце рэшт да сястры. Гасцяваць у Бахенскіх прыйшлося нядоўга — ратуючыся ад бальшавікоў, сёстры падаліся на захад. Габрыэля згадвала, што ісці часта трэба было пешкі, а ў дождж спаць пад вазамі не распранаючыся. Бежанцы дабраліся ажно да польскага Радама.

Калі фронт адкаціўся за Менск, дочкі падлоўчага вярнуліся ў родныя мясціны. Ядвіга з мужам і пасяліліся ў Тухавічах між Слонімам і Баранавічамі, дзе і жылі наступныя 20 гадоў. Ці жыла Ядвіга ў Слоніме, як пісаў Новік-Пяюн? У Слоніме атрымлівалі адукацыю дочкі Ядвігі, а сын Багдан вучыўся на ляснічага ў Жыровічах. Хутчэй за ўсё, Ядвіга прыязджала ў Слонім да дзяцей.

Габрыся ж пасялілася з дзецьмі на Лунінеччыне — родны брат Ян атрымаў там пасаду ляснічага. Другі брат, Чэслаў, не вярнуўся з франтоў Першай сусветнай. А каля 1925 памёр і Ян. Род пана падлоўчага па мужчынскай лініі згас...

Прыкладна ў той жа час Габрыэля выйшла замуж за адстаўнога вайскоўца Стэфана Серафіна. У другім шлюбе ў Габрыэлі было чацвёра дзяцей. Новая сям’я жыла бедна, працуючы на зямлі і спрабуючы пракарміцца з хатняй гаспадаркі.

Бахенскія жылі ў большым дастатку. Ядвіга не забывала матэрыяльна падтрымліваць сястру. Пад канец 1930-х Бахенскія амаль скончылі будаваць новы дом, дзе планавалі сустрэць старасць. Гэтыя планы перакрэсліла чарговая вайна.

* * *

Нічога добрага ад савецкай улады ані сям’я Ядвігі, ані Габрыэлі чакаць не маглі. Польскіх ляснічых савецкая ўлада па азначэнні адносіла да ворагаў, як і тых, хто ваяваў з бальшавікамі ў 1920-я. А Стэфан Серафін акурат быў уланам, удзельнікам савецка-польскай вайны.

Узімку 1939—40 года Ядвіга з мужам паехалі ў Баранавічы — пагасціць у дачкі. На наступны дзень з Тухавічаў прыйшла трывожная вестка: іх новы дом спалілі невядомыя. Баючыся за свае жыцці, Ядвіга з мужам засталіся ў Баранавічах.

Серафінаў пачатак вайны заспеў у Пінску. Аднаго дня, едучы ў цягніку, Габрыэля падслухала размову двух энкавэдзістаў пра планаваны арышт свайго мужа. Папярэджаны Стэфан уцёк праз дэмаркацыйную лінію ў нямецкую акупацыйную зону.

Пра саму Габрыэлю з дзецьмі новая ўлада прыгадала на пачатку 1940 года. Усё адбывалася, як і ў дзясятках тысяч іншых дамоў Заходняй Беларусі: мінімум часу на зборы, мінімум рэчаў з сабой, доўгая паездка ў халодным вагоне-цялятніку...

Сям’я Серафінаў апынулася ў пасёлку Уйма пад Архангельскам, на лесапавале. Ад непазбежнай смерці жанчыну і яе дзяцей выратавала маладзейшая пара, якая прапанавала замяніцца працай. Так Габрыэля пачала працаваць на цагельні.

Жанчына не ведала, дзе шукаць дапамогі. І напісала ліст да... Якуба Коласа. Крысціна Прыёмка-Серафін, малодшая дачка Габрэлі, згадвае, што маці не падала на канверце адрас. Аднак ліст дайшоў. У адказ прыйшла пасылка з рэчамі, прадуктамі і кнігай «У палескай глушы». Прачытаўшы, Габрыэля пераслала кнігу сястры. Пасылкі ад Якуба Коласа прыходзілі да чэрвеня 1941, да пачатку вайны. Прыкладна ў той жа час перасталі даходзіць лісты і пасылкі ад сястры. Наступны год Серафіны жылі перад абліччам галоднай смерці.

У ліпені 1941 было падпісанае пагадненне паміж СССР і эміграцыйным урадам Польшчы, і рэпрэсаваныя «былыя польскія грамадзяне» былі «амніставаныя». У 1942 сям’я Серафінаў трапіла ў туркменскі порт Краснаводск, на адзін з апошніх параходаў, які забіраў з СССР жанчын і дзяцей разам з арміяй генерала Андэрса. Фармаванні Андэрса сталі часткай брытанскіх войскаў, жанчыны і дзеці адпраўляліся ў розныя часткі Брытанскай Імперыі. Сям’я Габрыэлі трапіла ў Афрыку, у Танганьку, дзе ў мясцовасці Тангеру (на тэрыторыі сучаснай Танзаніі) была створана вёска для польскіх перасяленцаў. Там у 1947 Габрыэля напісала ўспаміны, дзе, згадваючы сястру, пісала: «Няхай Найвышэйшы Бог дасць ёй здароўе альбо вечны супакой, калі яе няма ў жывых».

А Ядвіга жыла ўжо ў сацыялістычнай Польшчы. Пахаваўшы ў Баранавічах у 1944 мужа, які памёр ад раку, яна не чакала на «другія саветы» і падалася з сям’ёй дачкі на захад. Новым і апошнім месцам жыхарства Ядвігі стала Лодзь. Яна памерла ў верасні 1955, так і не пабачыўшыся з сястрой. Якуб Колас перажыў яе менш чым на год...

Габрыэля, дзякуючы свайму сыну, які быў рэкрутаваны ў брытанскую армію, змагла пераехаць з Афрыкі ў Вялікабрытанію. Пазней яна некалькі разоў была ў Польшчы, але так і не змагла пабываць там, дзе прайшлі яе юнацтва і маладосць. Бог адмераў ёй пакутнае, але доўгае жыццё. Габрыэля памерла ў Канадзе, маючы 96 гадоў, яе прах пахаваны ў горадзе Хадэрсфілд у цэнтральнай Англіі, побач з сынам...

* * *

Нашчадкі Ядвігі і Габрыэлі жывуць у Польшчы, Вялікабрытаніі, Ірландыі, Канадзе.

Крысціна Прыёмка-Серафін, дачка Габрыэлі, пасля паездкі ў Танзанію заснавала фонд, а ў ваколіцах афрыканскай вёскі, дзе сама вырасла, — прытулак для танзанійскіх дзяцей, маці якіх знаходзяцца ў турмах. У 2008 за сваю грамадскую дзейнасць унучка пана падлоўчага стала лаўрэатам Узнагароды імя Высокага камісара ААН па правах чалавека Сержыу Віейра ды Мелу.

**Сяргей Кузняцоў**



**Ядвіга Бахенская (Баранцэвіч), Тухавічы (?), канец 1920-х. Самы ранні з вядомых здымкаў Ядвісі.**



**Габрыэля Баранцэвіч, 1908 год.**



**Герб «Ляліва» на сямейных дакументах Баранцэвічаў, першая палова XIX ст.**

**Сяргей Кузняцоў**

Нарадзіўся ў 1982 у Гродне. Юрыст, палітолаг. Дактарант польскай Акадэміі навук. Жыве ў Варшаве.

## ФУТБОЛ

### 2 тур

**5 — 6 красавіка** пройдуць матчы чарговага тура чэмпіянату краіны па футболе.

**У суботу** згуляюць:
БАТЭ (Барысаў) — «Мінск»,
«Слуцк» — «Шахцёр» (Салігорск),
«Нафтан» (Наваполацк) — «Дняпро» (Магілёў).

**У нядзелю:**
«Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) — «Белшына» (Бабруйск),
«Дынама» (Брэст) — «Гомель»,
«Дынама» (Мінск) — «Нёман» (Гродна).

## КАНЦЭРТЫ

### «Бі-2»

**5 красавіка на «Мінск-Арэне» (Пераможцаў, 111)** выступае гурт «Бі-2» у суправаджэнні сімфанічнага аркестра. Пачатак а 19-й.

### «Тараканы»

**5 красавіка ў клубе Re:public (Прытыцкага, 62)** — канцэрт гурту «Тараканы». Пачатак а 19-й.

### «Дай дарогу!» у Віцебску

**6 красавіка ў Віцебску (клуб «Паддашак», Кастрычніцкая, 12)** сольны выступ гурту «Дай дарогу!». Пачатак а 19-й.

### «Тлушч»

**6 красавіка а 21-й у TNT Rock Club (Рэвалюцыйная, 9)** ладзіць канцэрт панк-рок гурт «Тлушч».

### Сяргей Пукст і Pukstband

**10 красавіка ў клубе Tarantino (вул. Кастрычніцкая 5)** авангардыст Сяргей Пукст дасць самы вялікі ў сваёй гісторыі канцэрт. Музыка прэзентуе свой «Апошні альбом». Пачатак а 19-й.

## ВЫСТАВЫ

### Новае жыццё нацыянальных скарбаў

**У Нацыянальным гістарычным музеі (Маркса, 12)** працягваецца выстава «Банк БелВЭБ: новае жыццё нацыянальных скарбаў».
Выстава ўяўляе сабой прэзентацыю 26 музейных калекцый. Сярод экспанатаў рарытэты з калекцыі археалогіі, каштоўных металаў і камянёў, скарбаў, нумізматыкі, іканапісу, музычных інструментаў, выяўленчага мастацтва, нацыянальнага касцюма, зброі.



### Камуфляж

**У галерэі «Акадэмія» (вул. Сурганава, 14)** праходзіць персанальная выстава польскага мастака Мірaслава Паўлоўскага (Познань). На ёй прадстаўлены найноўшыя працы, якія надрукаваны ўнікальнай тэхнікай УФдруку на алюмініевых пласцінах. Над гэтым цыклам аўтар працуе ўжо шмат гадоў, менавіта гэтыя графічныя работы найбольш адлюстроўваюць яго творчую сутнасць.

### Чалавек на дарозе

**З 3 красавіка ў Цэнтры сучаснага мастацтва (Някрасава, 3)** прадстаўлены экспазіцыі сучаснай украінскай, малдаўскай і беларускай фатаграфіі. Аснова праекта — тры выставы: маладых малдаўскіх фатографаў «Беражлівае стаўленне да рэчаў», украінскай творчай майстэрні «L∞K» «Наша агульнае асабістае» і беларускіх фатографаў Андрэя Дубініна і Андрэя Карачуна «Чалавек на дарозе».

## ТЭАТРЫ

### 3 красавіка

**Беларускай драматургіі** — Нямое каханне
**Лялек** — Ладдзя роспачы
**Купалаўскі** — Лістапад. Андэрсен
**Оперы і балета** — Іаланта
**Юнага гледача** — Тарас на Парнасе

### 4 красавіка

**Беларускай драматургіі** — Адамавы жарты
**Купалаўскі** — Пінская шляхта
**Лялек** — Малы і Карлсан, які жыве на даху
**Оперы і балета** — Трышчан і Іжота, Шапэніяна, Балеро
**Юнага гледача** — Сіні аўтамабіль

### 5 красавіка

**Купалаўскі** — Паўлінка
**Лялек** — Малы і Карлсан, які жыве на даху
**Оперы і балета** — Трышчан і Іжота, Шапэніяна, Балеро
**Юнага гледача** — Кот у ботах, Царэўна-жабка

### 6 красавіка

**Беларускай драматургіі** — Ціхі шэпт сыходзячых крокаў
**Лялек** — Чырвоны Капялюш
**Купалаўскі** — Паўлінка
**Оперы і балета** — Баль-маскарад
**Юнага гледача** — Прыгоды Бібігона

### 8 красавіка

**Беларускай драматургіі** — Раскіданае гняздо
**Купалаўскі** — Дон Жуан
**Оперы і балета** — Набука

### 9 красавіка

**Беларускай драматургіі** — Раскіданае гняздо
**Купалаўскі** — Дон Жуан
**Оперы і балета** — Бахчысарайскі фантан
**Юнага гледача** — Маленькі лорд Фаўнтлярой

## КІНО

### Прыгажуня і пачвара

казка, меладрама
**Рэжысёр:** Крыстоф Ганс
**У ролях:** Леа Сэйду, Венсан Касэль, Андрэ Дзюсалье, Эдуарда Нар'ега, Мірыам Шарленс
Францыя, Германія, 112 хв.

Дачка купца, адважная Бэль, адпраўляецца ў замак пачвары, каб выратаваць жыццё свайго бацькі. Апынуўшыся ў замку, яна трапляе ў свет чараўніцтва, фантастычных прыгод і смутку.
Аказваецца, што ў грудзях пачвары, што наводзіць жах на ўсю ваколіцу, б'ецца добрае сэрца. І Бэль усё больш пранікаецца сімпатыяй да свайго жахлівага гаспадара. Яна вырашае прайсці ўсе выпрабаванні, каб зняць злавесныя чары са страшыдлы. Але гэта адбудзецца толькі тады, калі яго змажа пакахаць чароўная дзяўчына.



# Ці застанецца БАТЭ чэмпіёнам?

Пачаўся чарговы **чэмпіянат Беларусі** па футболе.

Ці здолее саслабелы БАТЭ зноў стаць чэмпіёнам краіны — галоўная інтрыга спаборніцтва. Барысаўскі клуб не сыходзіць з вяршыні ўжо восем гадоў запар, але гэтым разам клуб можа сутыкнуцца з цяжкасцямі.

Трэнера Віктара Ганчарэнку, з якім звязаныя перамогі апошніх гадоў, летась замяніў Аляксандр Ермаковіч, які пакуль не мае вялікага досведу самастойнай працы. Яму даручана правесці перабудову каманды. Узімку БАТЭ адмовіўся ад паслуг некаторых высокааплатных гульцоў (глядзі леташні рэйтынг заробкаў) і працягнуў скупку перспектыўных беларусаў.

«Усе прызвычаіліся, што каманда выйграе чэмпіянат з запасам. Нягледзячы на абнаўленне і чыстку кадраў, у першых матчах сезона клуб пакуль выглядае бляkла. У мінскага «Дынама» і салігорскага «Шахцёра» ўзнікае шанец скарыстацца гэтай перабудовай», — кажа тэлекаментатар Мікалай Хадасевіч.



**Летась БАТЭ няўдала стартаваў, але ўсё ж давёў чэмпіянат да перамогі. На фота: гульцы БАТЭ віншуюць з перамогай галоўнага трэнера Аляксандра Ермаковіча.**

### Другі эшалон

Свае прэтэнзіі на медалі выказваюць і іншыя клубы: «Нёман», «Тарпеда-БелАЗ» і «Гомель». Яны ўзмацніліся за кошт футбалістаў, якія сышлі з клубаў-лідараў.

«На сёння гэтыя каманды з’яўляюцца «цёмнымі конікамі». На п’едэстал ім перашкаджае ўзнікаць адсутнасць ментальнасці пераможцаў, якая з’яўляецца з гадамі, — разважае Хадасевіч. — Найбольш сур’ёзна глядзіцца «Нёман». У матчах Кубка Беларусі буду пераажываць менавіта за гэту каманду. Яе ўзровень, а таксама добры стадыён і інфраструктура заслугоўваюць таго, каб прыняць Лігу Еўропы».

Бабруйская «Белшына», брэсцкае «Дынама» і «Мінск» паспрабуюць замацавацца ў сярэдзіне табліцы. А вось магілёўскі «Дняпро», наваполацкі «Нафтан», а таксама «Слуцк» — дэбютант вышэйшай лігі, хутчэй за ўсё, будуць змагацца за выжыванне. Хоць вылецець з чэмпіянату будзе надзвычай складана.

### Ніхто не вылятае

У 2008 годзе Сяргей Румас, кіраўнік Беларускай федэрацыі футбола, пралабіраваў паступовае скарачэнне колькасці камандаў з 16 да 12. Логіка тагачаснага віцэ-прэм’ера тлумачылася проста. Быў узяты курс на эканомію, а каманды фінансаваліся мясцовымі органамі ўлады і дзяржпрадпрыемствамі. Але цяпер Румас кажа адваротнае: «Раней у нас не было эканамічных перадумоў для пашырэння чэмпіянату Беларусі, а цяпер яны з’явіліся».

> **«У мінскага «Дынама» і салігорскага «Шахцёра» ўзнікае шанец скарыстацца перабудовай БАТЭ»**

Сёлетні сезон стане апошнім, які праводзіцца па старой схеме: 12 камандаў пасля двух колаў падзеляцца на «шасцёркі» мацнейшых і слабейшых. Ужо з наступнага года чыноўнікі зноў плануюць павялічыць чэмпіянат да 14 клубаў (з перспектывай да 16).

«Наўпрост ніхто не вылятае. Апошняя каманда будзе гуляць стыкавыя матчы з трэцяй камандай першай лігі. Але хутчэй за ўсё, перавага ў класе будзе прыкметная. Такім чынам, у сярэдзіне лета (пасля падзелу на «шасцёркі») мы атрымаем шэсць нематываваных каманд. У мінулым годзе іх супрацьстаянне было не цікавае ні заўзятарам, ні спецыялістам. Але тады хаця б існавала інтрыга: ці пакіне «Славія» вышэйшую лігу? Сёлета і такой праблемы ўжо не будзе», — каментуе Хадасевіч.

### Без Глеба, але з нарвежцамі

Узімку трансферная актыўнасць беларускіх клубаў была сціплай. Можна назваць усяго некалькі пераходаў, якія прэтэндуюць на статус гучных. Усе яны звязаныя з гульцамі БАТЭ. Самы зорны футбаліст Беларусі Аляксандр Глеб і яго калега Арцём Радзькоў перабраліся ў турэцкія «Каньяспор» і «Генчлербірлігі» адпаведна. А Максім Бардачоў і Павел Няхайчык — у расійскую «Томь».

Юрый Чыж не пашкадаваў грошай на замежных гульцоў для свайго мінскага «Дынама». У каманду прыйшлі з нарвежскага чэмпіянату абаронца Умару Бангура і нападаючы Адама Дыямандэ, за якога заплацілі амаль $500 тысяч. Вось толькі далёка не кожны легіянер у «Дынама» адпрацоўвае затрачаныя на яго грошы.

Большасць астатніх трансфераў — хаджэнне беларускіх футбалістаў паміж клубамі. Найчасцей яны падпісваюць кантракты тэрмінам на год, што дазваляе ў канцы сезона сыходзіць з каманды бясплатна. А пасля зноў спрабаваць працаўладкавацца, выбіваючы для сябе найбольшы заробак.

«Наш чэмпіянат дае вельмі мала новых імёнаў — маладых футбалістаў, якія могуць з’ехаць за мяжу. З кожным годам іх усё менш і менш. Адзіны шанец, што, калі ніхто наўпрост не вылятае, каманды будуць больш давяраць моладзі, а футбол стане больш атакуючым», — мяркуе Хадасевіч.

**Колькі зарабляюць беларускія футбалісты?**

Партал Tribuna.com летась складаў рэйтынг заробкаў гульцоў чэмпіянату Беларусі. Палова з самых дарагіх футбалістаў сышла ў іншыя каманды.

1. Аляксандр Глеб (сышоў з БАТЭ ў турэцкі «Каньяспор»)— $130 тысяч*
2. Віталь Радзівонаў (БАТЭ) — $25 тысяч
3. Дзмітрый Молаш («Дынама» Мінск) — $18 тысяч
4. Андрэй Хачатуран (сышоў з «Шахцёра» ў «Нёман») — $18 тысяч
5. Сяргей Балановіч («Шахцёр») — $15 тысяч
6. Няманья Ніколіч («Дынама» Мінск) — $15 тысяч
7 Арцём Канцавы (сышоў з БАТЭ ў «Тарпеда-БелАЗ») — $15 тысяч
8. Павел Няхайчык (сышоў з БАТЭ ў расійскую «Томь») — $15 тысяч

*чысты сярэдні заробак за месяц пасля сплаты падаткаў

### Прыбіральні забароненыя

Дзве галоўныя праблемы беларускага футбола ранейшыя: сэрвіс і паводзіны міліцыі. На трыбунах па-ранейшаму не створаны камфортныя ўмовы для заўзятараў. Адзін з апошніх прыкладаў — заява «Мінска» пра паводзіны супрацоўнікаў АМАПу на сталічным футбольным манежы (падчас матча за Суперкубак). Праваахоўнікі забаранілі дзецям 8–9 гадоў у перапынку паміж таймамі наведаць прыбіральню. Пакуль сітуацыя не зменіцца, трансляцыі матчаў, якія ідуць на спартыўных сайтах, будуць збіраць больш гледачоў, чым жывыя матчы.

Зрэшты, ёсць і пазітыў. Сёлета будзе адкрыты новы стадыён БАТЭ — «Барысаў-Арэна». Афіцыйнае адкрыццё 13-тысячнага стадыёна, пабудаванага «пад Лігу чэмпіёнаў», чакаецца 3 мая падчас фінальнага матча Кубка Беларусі.

**Андрусь Вяткоўскі**

КІРЫЛА ХІЛЬКО

На мінскай плошчы Свабоды з’явілася кампазіцыя «Гарадскія шалі», якую стварыў скульптар Аляксандр Прохараў. На ёй гараджане ўзважваюць тавар. Эталоны еўрапейскай метрычнай сістэмы, а таксама дазвол на ўстаноўку гарадскіх шаляў Мінск атрымаў дзякуючы Магдэбургскаму праву. Прывілей вялікага князя Аляксандра Ягелончыка, а таксама пячатка мінскай ратушы з выявай герба горада, знаходзяцца збоку кампазіцыі.

Беларуская вайсковая газета «Во славу Родины» праілюстравала артыкул «Сірыя здольная ўзарваць Еўропу» здымкам 6 мужчын у форме і са зброяй краін-удзельніц НАТА. Подпіс пад фота тлумачыў, што гэта «еўрапейскія баевікі ў Сірыі». Як выявілася, «баевікамі» аказаліся хлопцы з пазалеташняй прэзентацыі камп’ютарнай гульні ў Мінску.

СЯРГЕЙ САЦЮК, БЕЛАПАН

У Мінску прайшлі спаборніцтвы па чырлідынгу ва ўсіх узроставых катэгорыях. Чырлідынг — падтрымка спартыўных каманд.

Скандал на омскім заводзе «Сыры». Чацвёра работнікаў купаліся ў чане з малочным прадуктам, прызначаным для вырабу сыру-касічкі, а пасля выклалі фоты ў інтэрнэт. Адзін з маладзёнаў яшчэ і прапаласкаў у заквасцы свае штаны. Санэпідэмстанцыя часова прыпыніла працу завода.

## Анекдоты і жарты

* * *

Гульня для сяброўскай кампаніі: гулец раскручвае глобус і тыкае пальцам у выпадковае месца, пасля чаго яму даюцца дзве хвіліны абгрунтаваць увод войскаў.

* * *

Украінскі ваенкамат выклікае рэзервіста.
— А зброю выдаяце ці сваю прыносіць?

* * *

— Гэта неразважліва, — заўважыў досвед
— Паспрабуй, — шапнула мара.
— Дзесяць гадоў калоніі строгага рэжыму, — сказалі ў судзе.

* * *

Тэлефануе Аліна Кабаева Уладзіміру Пуціну.
— Пасля працы вазьмі каўбас, тунец і чарніцы. І каб быў роўна ў восем.
— Так, запісваю: узяць Данбас, Данецк і Чарнігаў. А, яшчэ Роўна ў восем!

* * *

2023 год. 733-я прэс-канферэнцыя Януковіча:
— Я жыў, здароў і застаюся легітымным прэзідэнтам Украіны.

* * *

Не можаце знайсці работу? Памножце час на магутнасць.

* * *

Сяджу ў кавярні. Падыходзіць хлопец і кажа:
— Можна я за вас заплачу? ...
Дык я не разгубілася — дастала квітанцыі за ацяпленне, газ, святло, ваду...

* * *

Фізрук хацеў патанцаваць на школьнай дыскатэцы, але, як ні стараўся, усё роўна ў яго атрымліваліся толькі прысяданні і адцісканні.

* * *

Чарга — гэта адзінае месца, дзе людзі баяцца згубіць адзін аднаго.

## «НН» сто гадоў з вамі

**У Мінску** судзебная палата пастанавіла знішчыць брашуру Льва Таўстога «Не магу маўчаць». Ад 16 сакавіка сканфіскавана 18 газет; абложана штрафам 4 газеты на 1600 рублёў; пацягнулі пад суд 9 рэдактараў, з гэтага ліку 4 па крымінальных справах.

**«НН». №13. 1914.**

**Аднавіўся выхад газеты «Свабода».** У адроджанай газеце, якую рэдагуе Сяргей Дубавец, сталыя чытачы «НН» пазнаюць той самы творчы дух і тэматыку, якія вылучалі «Нашу Ніву» 1990-х. Новая «Свабода» задуманая не для вузкага кола, а для «маральнай большасці» нашага грамадства — як палітычнай, так і культурнай эліты.

**«НН». №13. 2004.**

Наша Ніва
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by
**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.
Наклад 8002. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 01.04.2014.
Замова №1437.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 14013